«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (224), красавік 2025 года



# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 4 (224) (красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



## Змест



**ЗГАДКІ**

# «Човен майго часу»

Кастусь ЦВІРКА

## Васіль ВІТКА

Гэта была прыемная неспадзяванка: мяне, вучня Старадарожскай сярэдняй школы, аўтара не так ужо і многіх вершыкаў у нашай раёнцы, выклікалі ў Бабруйск на абласную нараду маладых пісьменнікаў. У вузкаватай зале для пасяджэнняў газеты «Камуніст» («органа Бабруйскага абкама КП Беларусі») сабралася такіх «пісьменнікаў» чалавек дзвццаць.

З чаканнем нечага незвычайнага паселі на збітыя ў рады «жорсткія» рыплівыя крэслы. Маю гордасць (як жа, і я залічаны ў «пісьменнікі», хай і «пачынаючыя») добра астуджваў халадок трывогі: што ж тут скажуць пра мае вучнёўскія «пробы пяра»?

І от з бакавых дзвярэй увайшлі і сталі перад намі за сталом на невысокай сцэне двое — рэдактар «Камуніста» і прыезджы з Мінска. Рэдактар як гаспадар адразу ж адрэкамендаваў госця — строга апранутага, з сур'ёзным выразам твару чалавека. Гэта быў прызнаны паэт і галоўны рэдактар рэспубліканскай газеты «Літаратура і мастацтва» Васіль Вітка. Даручыўшы яму весці нараду, рэдактар пакінуў сцэну.

«Пісьменнікі» па чарзе чыталі нешта сваё і абмяркоўвалі прачытанае. Васіль Вітка падахвочваў усіх выказвацца. Рабіў нейкія заўвагі і сам. Калі, вельмі хвалюючыся, пачытаў і я свае «творы», ён адразу ж папрасіў падаць яму мой сшытачак з вершамі. Ні ў кога іншага з нашай кампаніі ён не прасіў іхных твораў. Чаму так? Чым зацікавілі яго якраз мае вершы? Я і сёння гэтага не ведаю. У канцы нарады, пагартаўшы мой сшытачак, ён падазваў мяне і сказаў перапісаць адзін з упадабаных ім вершаў і прыслаць у «ЛіМ» на яго імя, паабяцаўшы надрукаваць. О, надрукавацца ў такой паважнай сталічнай газеце — гэта ж такая была б радасць!

Паслаўшы той верш (цяпер нават назвы яго не прыпомню), я ў дні прыходу газеты спяшаўся ў нашу райбібліятэку, каб барздзэй убачыць свой надрукаваны твор. Ды колькі ні праглядваў «ЛіМаў», яго там не знайшоў. Значна пазней я даведаўся, што той верш «зарэзаў» Навум Кіслік, які працаваў тады ў рэдакцыі газеты. Мусіць, мой твор не дайшоў да галоўнага рэдактара. Ці ён проста аддаў яго на «водкуп» літработніку?

Як бы там ні было, сваёй увагай да маіх вучнёўскіх вершаў Васіль Вітка вельмі падахвоціў мяне пісаць і далей.

Другім разам — ужо значна пазней — ён добра падняў мой дух у аглядзе творчасці маладых літаратараў, апублікаваным у другім нумары часопіса «Полымя» за 1960 год пад загалоўкам «Творчы пашпарт пісьменніка». Да «паэтычных удач» апошняга часу Васіль Вітка побач з кніжкай Рыгора Барадуліна «Маладзік над стэпам» залічыў і мой зборнік вершаў «Такія сэрцы ў нас». У сваім



Фота pxhere.com

артыкуле ён зазначаў: «У адрозненне ад Барадуліна, моцнага яркай вобразнай дакладнасцю, Цвірка больш схільны да сілабічнага абагульнення, да паэтычнага афарызма». І дадаваў: «Добрыя і адна і другая якасці. А было б яшчэ лепш, каб кожны малады паэт, удасканальваючы свой талент, адточваў усе яго грані». У гэтым жа аглядзе як лепшы прыклад удалых лірычных твораў Васіль Вітка цалкам прывёў і мой верш «Лодачкі».

У сваю чаргу і я быў рады з часам «быць карысным» майму літаратурнаму настаўніку.

Першы раз — у публікацыі яго твораў на старонках часопіса «Полымя», калі я ўзначальваў там аддзел паэзіі. Ён прынёс мне вялікую падборку вершаў для дзяцей. Пад агульным загалоўкам «Дзеці і мова». Я палічыў, што і для дарослых маюць цікавасць гэтыя вершы, і яны былі апублікаваны ў кастрычніцкім нумары за 1993 год. Цімох Васільевіч быў вельмі ўдзячны мне за гэтую публікацыю.Ён завітаў да мяне ў «Полымя», і мы доўга гутарылі з ім. Пра літаратуру, пра ўсё. Ён паскардзіўся мне, што калі пакінуў сваё рэдактарства ў часопісе «Вясёлка», яго перасталі друкаваць нават у выдавецтве «Юнацтва».

Другім разам, калі надарылася магчымасць, я з радасцю ўзяўся — на жаль, ужо не пры жыцці паэта — рыхтаваць разам з Тамарай Тарасавай аднатомнік яго выбраных твораў у серыі «Беларускі кнігазбор».

Што ж з усёй творчасці Васіля Віткі нам трэба было ўзяць для такой прадстаўнічай кнігі? Гэтае пытанне заўсёды ўстае перада мной, калі рыхтую чарговы том серыі. Там жа павінна быць усё самае значнае, самае характэрнае для пісьменніка.

Пачынаю з «выніковай» кнігі Васіля Віткі «Паверка», выдадзенай у 1961 годзе да яго 50-гадовага юбілею. Змешчаныя там вершы разачаравалі. Былі яны пра «шчаслівыя песні», пра «славу нашага ўраджаю», што «паплыла ў свет чырвонымі абозамі», пра «гулкія вежы Крамля» ды пра «сковыт» капіталістаў — «ворагаў нашага шчасця». Што тут скажаш: пісаліся гэтыя вершы — гляджу на даты пад імі — з 1928 па 1959 год, у самы той час, калі паэты павінны былі наступаць «на горло собственной песни» (У. Маякоўскі). У вершы «Паверка», які і даў назву зборніку, Васіль Вітка з гордасцю (і наўрад ці ўдаванаю) заяўляў: «Мы... запаветныя думы звяраем з Масквою», а сэрцы — «з сэрцам партыі».

І ўсё ж праз абавязковы ідэалагічны жалезабетон прабівалася на свет і жывое, сапраўднае. Прыкладам, верш «Хлеб». Светлы ўспамін пра дзяцінства, пра тое, як маці мясіла ў дзежцы цеста, як яно, падыходзячы, «стагнаць пачынала сярдзіта, нібы мядзведзь у аблаве», як потым у печ, «у вясёлае падарожжа ехаў наш хлеб на лапаце».

*Спадыспаду высланы лістам дубовым,*
*Духмяным пасыпаны кменам,*
*Вяртаўся ён з печы, як сонца, ружовы*
*І доўга свяціў на стале нам.*

Так, Васіль Вітка — найперш паэт, і паэт не абы які. Я сказаў бы, паэт-язычнік, які не ў аблоках лунае, а цвёрда ідзе па зямлі, адухаўляючы, робячы паэзіяй усё, на чым запыніцца яго пільнае, неабыякавае вока. З «чырвонаствольай гонкаю сасной» ён вітаецца, «як даўнішні знаёмы», надоўга спыняецца перад «арэшынай у завушніцах», якая раптам вяртае яму далёкую вясну:

*І зараз помню*
*Да драбніцы*
*Світання промні*
*Ў завушніцах,*

*Гаркавы водар*
*Балігалову,*
*Што і праз годы*
*Займае мову...*

«Зямля» у Васіля Віткі не абстрактная зямля-планета, а зусім канкрэтная на ёй мясціна. Гэта — спеўная, з шырокімі палявымі разлогамі родная Случчына, дзе ў простай сялянскай хаце вёскі Еўлічы ён нарадзіўся і рос, дзе хадзіла яго юнацтва.

*Мы са Случы ўсе — сакуны,*
*Завомса сакунамі.*
*Спрадвеку хлеб наш сакаўны*
*І мова сакаўная...*

*Здавён адзін на аднаго*
*Мы не глядзелі скоса*
*І хоць пабачылі ўсяго —*
*Усё перажылосо...*

*Яшчэ ў калысцы спіць сысун,*
*А толькі абазваўса,*
*І ўжо ён выліты сакун,*
*Увесь у бацьку ўдаўса...*

«І сам удаўса я такі» — прызнаецца ў новым вершы Васіль Вітка, падкрэсліваючы сваю знітаванасць, злітнасць з роднай зямлёй, з яго «малой радзімай», дзе ўзяў крылы для высокага палёту:

*Тут між балотнага куп'я*
*Ўзлятала песня кнігаўкай.*
*Зрасталася душа мая*
*З маёю лепшай кнігаю.*

*У ёй — імёны, адрасы,*
*У ёй — мае случане,*
*Жывых — жывыя галасы*
*І тых, што замаўчалі.*

*Падчас і я ў трубу трублю,*
*На скрыпачцы пілую,*
*Што, мілую, цябе люблю,*
*Зямлю сваю — малую.*

*А ты жыццё прайшла са мной,*
*У свет вялікі клікала.*
*Ніколі без цябе, малой,*
*Не знаў бы я вялікае...*

Усё, што з маленства адбілася ў памяці і запала ў душу, усе фарбы і пахі роднай зямлі, чарадзейныя гукі яе старажытнай мовы перанёс паэт у радкі сваіх вершаў і паэм. Адтуль, з дарог і сцежак бацькоўскага краю, прыйшлі такія з іх, як «Шарая гадзіна» («Пеўневым барвовым грабянцом запалаў лясок на даляглядзе...), «На выгодзе» («Падлеткам за чужою чарадой я выходзіў выжары і пагоркі...»), «Журавель» («Здавён вартуе ён сяло, высока выцягнуўшы шыю...» ), «Першае наіўнае каханне» («Мне валошкай вышыла матуля з беленага кужалю кашулю...»), «Верасы» («Што гэта: казка а ці сон, ці лесу галасы? Смычкоў суладны унісон з размаху, наўкасы ударыў і вясёлы дождж за хмаркаю услед пабег, як хлопчык, басанож у ясны мілы свет...»)...

Заканчэнне на стар. 6—7 »

# «Няхай паэзія множыць скарбніцу духу»

## Рыгор БАРАДУЛІН і Уладзімір КАЛЕСНІК

Марыя НОВІК

Рыгор Барадулін атрымліваў ад сваіх чытачоў, літаратараў, захопленых ягонай паэтычнай творчасцю, красамоўныя водгукі-ацэнкі. Выразнымі з'яўляюцца перыфразы — вобразныя назвы-характарыстыкі, у іх — цікавы вобраз і глыбокі падтэкст. Прывядзем толькі некаторыя з іх, каб убачыць у гэтай размаітай мазаіцы жывы і непаўторны воблік паэта: *Купала нашых дзён* (Лявон Баршчэўскі), *Коласаў Сымон-музыка, сівабароды Сымон-музыка, рэстаўратар паэтычнай Бабілонскай вежы* (Алесь Пашкевіч), *вечны дзядзька Рыгор* (Рыгор Сітніца). Паказальны верш Ніны Мацяш, у якім — захапленне, падзяка, ацэнка паэта, мастака-словатворцы, грамадзяніна, улюбёнага ў роднае слова, у родную Беларусь:

Прамень зіхоткі ў густалессі слоў,
натхнёны чмель з лугоў духмяных мовы,
вялетны колас на палетку ўспадчаным,
у зернятах якога патуліліся
раса і сонца, туманы й маланкі, —
ён ведае, чаго прыйшоў сюды —
нязбройны рыцар з тарчай псальмаспеву,
не рыгарыст і не гардун — свой дзядзька
і гораду, і вёсцы, і нябёсам,
з запазухаю досціпаў і жартаў,
з заплечвам смуткаў,
непадымных жаляў
пад палыновай зоркаю крывіцкай, —
ён ведае, чаго прыйшоў сюды.

*(Мацяш Н. "У прыгаршчах ветру", с. 29)*

Ён прыйшоў напрыканцы зімы — 24 лютага 1935 года, а напачатку вясны — 2 сакавіка 2014 года душа Народнага паэта Беларусі, дарагога дзядзькі Рыгора адлясцела ў вечнасць. Ды засталася ў Радзімай, з ягонымі чытачамі ягоная паэзія — *«непераўзыдзеная Песня Песняў»* (Алесь Пашкевіч).

Добрыя стасункі звязвалі Рыгора Барадуліна з Уладзімірам Калеснікам. Гэта былі творчыя клопаты, гутаркі падчас пісьменніцкіх пленумаў і з'ездаў у Мінску, а таксама непаўторныя сустрэчы з берасцейскімі студэнтамі, з грамадскасцю Берасця ў вялікіх гарадскіх залах.

Паэт быў удзячны У. Калесніку за падтрымку ў друку яго і ягонай творчасці на самым пачатку свайго творчага шляху: у 1960 годзе ў часопісе «Дружба народов» была апублікавана рэцэнзія У. Калесніка на першы зборнік Р. Барадуліна «Маладзік над стэпам». Гэтая рэцэнзія была важнай падтрымкай маладога паэта. Словы У. Калесніка былі прызнаннем таленту паэта, які распачынаў свой шлях у беларускай паэзіі. І не памыліўся рэцэнзент, зазначаючы ў сваім водгуку на першы зборнік арыгінальнага аўтара, што «мы адчуваем у ім скрытую вялікую і вясёлую ўнутраную сілу».

Рыгор Барадулін неаднаразова гасцяваў у хаце Калеснікаў. Засталіся ў архіве здымкі маладога паэта, зробленыя У. Калеснікам. Аўтограф Рыгора Барадуліна на зборніку «Вечалле», які выйшаў у 1980 годзе: *«Дарагому, шаноўнаму Уладзіміру Андрэевічу Калесніку, чый талент, чыя думка абудзіла літаратуру Брэстчыны і ўсяе Белае Русі. Рыгор Барадулін. 7. IV. 88»*.

У архіве У. Калесніка захаваліся аўтографы паэта, а таксама копіі тэлеграмы, віншавальнай паштоўкі і некалькіх лістоў, адрасаваных Р. Барадуліну. У іх прыадкрываюцца стасункі гэтых двух таленавітых, такіх розных характарам, аднак такіх падобных у служэнні Слову, беларускай літаратуры, культуры. Прывядзем іх тут:

***Паштовая картка:***

*Брэст 29. XII. 64*

*Дарагі Рыгор!*

*Віншую з Новым Годам. Хай расцвітае Твой сардэчны, вясёлы і чалавечны талент, хай мацней гучыць Твой празрысты, глыбока беларускі верш!*

*Ул. Калеснік*

***Тэлеграма***

*Дарагі Рыгор Іванавіч! Віншую юбілейным маладзіком. Няхай твая жыццярадасная мудрая паэзія множыць скарбніцу народнага духу. Ідзі сваім шляхам да поўні.*

*Твой Уладзімір Калеснік*



Рыгор БАРАДУЛІН



Уладзімір КАЛЕСНІК

Добрым пацверджаннем творчых стасункаў з'яўляецца ліст У. Калесніка да Р. Барадуліна, у якім — з паразуменнем вырашаюцца пытанні, звязаныя з выданнем твораў Уладзіміра Жылкі.

*Брэст, 14. X. 1985*

*Дарагі Рыгор Іванавіч!*

*Правёў два шчаслівыя дні, вычытваючы карэктуру зборніка У. Жылкі і грэючыся ля яго чыстай мужна-пакутлівай душы, рады быў бачыць і дотык тваёй рукі майстра. Добра, што Жылка выйдзе ў Тваёй рэдакцыі і чытач атрымае тэксты, выдадзеныя на належным узроўні паэтычнай і філалагічнай культуры, бо папярэдні зборнік, на жаль, меў шмат рэдактарскіх агрэхаў, Чэрня прачытаў тэксты нядбала і падаў іх чытачу абы-як. Я спрабаваў вярнуць «папраўленым» ім тэкстам першапачатковы выгляд, але нічога не ўдалося зрабіць, толькі тэкст прадмовы павыскубаны крыху здолеў прыгладзіць, давесці да сякой-такой чытэльнасці. Прыкра было браць у рукі тую кніжку, так што гэтая прыносіць мне аблягчэнне душы, наталенне. Дзякую за ўдзел у гэтай справе.*

*Гэта будзе самы поўны з існуючых зборнікаў Ж., і, думаю, што чытачы ацэняць гэта. Праўда, шкода, што выпалі два выдатныя вершы, непаўторныя ў нашай паэзіі. Гэта «Я грамнічная свечка прад богам» і «Альбігоец», шкада, што «Уяўленнне» і «Вершы аб Вільні» яшчэ ўсё выходзяць з купюрамі, але затое «Тэстамент» кампазіцыйна завершаны. Твор. Я сам прабаваў яго «падкампанаваць», але ў мяне не выходзіла, а ў вас з Лойкам атрымалася, па-мойму, удала. Важна тое, што кніга яскрава перадае асаблівасць духоўнага складу гэтага паэта.*

*У час нашай сустрэчы я так збянтэжыўся Тваёй заўвагай адносна прозвішча К. Е., што я забыў з разгубленасці падзякаваць табе за выдатнае, таленавітае прачытанне «Слова аб палку Ігаравым», бліскучае прыбліжэнне гэтага помніка да сучаснага чытача. Там такія творчыя здагадкі, такая сіла пранікнення ў падтэкст, што месцамі перахоплівае дух пры чытанні — гэта нешта накшталт цуду абнаўлення іконы. Віншую.*

*Вяртаючыся да таго інцыдэнта, я ўважліва прачытаў той артыкул і сапраўды ўбачыў, што Жылка недастаткова крытычна там паставіўся, дакладней сказаць — вельмі крытыкаваў сваю крытычную пазіцыю, закамуфліраваў. У «Ветразях» я раскрыў той падтэкст і цытаваў тую мясціну, якая тут у зборніку падавалася без каментарыя і таму выклікала законную засцярогу. — Мой недагляд, вінаваты.*

*Думаю, што зб[орнік] будзе багацейшы і лепшы, чым папярэднія, і гэта галоўнае. А наступныя зборнікі павінны быць яшчэ больш поўнымі, асабліва раздзел крытыкі можна з поспехам папоўніць рэцэнзіямі У. Ж[ылкі] на зборнік Л. Родзевіча «Беларусь», на паэму У. Дубоўкі «Наля», артыкуламі пра М. Горкага і А. Някрасава, пра пастаноўку «Фауста» у Мінскім музычным тэхнікуме і інш. Цікавыя перспектывы для публікацый даюць пісьмы да У. Жылкі родзічаў і літаратурных сяброў. Усё прыйдзе ў свой час. А покуль што дзякуй за супрацоўніцтва. Рады, што магу напісаць дочцы паэта пра карэктуру і пра добры зборнік, які так аператыўна «ціснула» ваша рэдакцыя. Прывітанне Вашым супрацоўнікам.*

*Цісну руку.*

*Ул. Калеснік*

Яшчэ адзін ліст, які выяўляе творчую супрацу над выданнем літаратурнай спадчыны.

*Брэст, 2. II. 87*

*Дарагі Рыгор Іванавіч!*

*Высылаю здымкі Караткевіча, якія аказаліся ў мяне дома. Не ўсе яны належнай якасці, але калі Вам падыдуць у прынцыпе, тады змагу павазіцца і зрабіць лепшыя адбіткі. Неўзабаве буду праяўляць і друкаваць здымкі для кнігі пра Я. Брыля, якую напісаў для «Народнай асветы», тады пашукаю плёнкі і са здымкамі Валодзі, калі акажуцца вартымі ўвагі — перашлю.*

*Вялікі Табе дзякуй за пераклад Славацкага для маёй пакутніцы-кнігі, спадзяюся, што ў гэтым годзе ёй собіць нарадзіцца на свет.*

*З прывітаннем Ул. Калеснік*

Дарагімі былі асабістыя сустрэчы Уладзіміра Калесніка з Рыгорам Барадуліным. Пісьменнік імкнуўся паказаць арыгінальнага паэта грамадскасці Берасця. Яшчэ адзін ліст — пра клопаты, звязаныя з арганізацыяй сустрэчы паэта ў Берасці.

*13. III. 1988*

*Дарагі Рыгор Іванавіч!*

*Учора званіў да цябе ў Мінск, бо пара дамовіцца аб тэрмінах сустрэчы са студэнтамі і грамадскасцю Брэста, на якую Ты згадзіўся ў часе нашай ужо, мажліва, і прызабытай размовы. Мы меркавалі тады пра сакавік, але мне перадалі, што пуцёўка ў цябе недзе да 30 сакавіка. Якраз вернешся на пленум па пытанні "гісторыя народа і мастацкая літаратура", ну і прымеш удзел у выбарах новага сакратара СП БССР на месца Віктара Казько, які папрасіў вызваліць яго ад гэтага клопату па прычыне творчай занятасці. Пасля пленума тыдзень папрацуеш, а 7 красавіка, спадзяюся, прыедзеш да Брэста на сустрэчу. Для нас гэта аптымальны, адзіна мажлівы тэрмін, бо ў палове красавіка пачнецца абарона курсавых работ, потым заліковая сесія і ўсё такое. Актавай залы ў інстытуце няма, будзем здымаць у арэнду залу палаца прафсаюзаў. Аб гэтым трэба дамаўляцца загадзя, бо ў горадзе праводзіцца многа масавых мерапрыемстваў, а вясною хлынуць турысты. Адным словам, я пачынаю хадайніцтва аб арэндзе памяшкання, спадзеючыся на Тваю папярэднюю згоду. Калі што-небудзь у Цябе стаіць на перашкодзе, то вельмі прашу, напішы мне або пазвані вечарам па тэлефоне. Пра згоду таксама я хацеў бы ведаць, каб не даймаць цябе няпэўнасцю. Кладу Табе заадрасаваны канверт, каб менш было клопату.*

*Спадзяюся, што працуецца Табе плённа і мацыёны вечарамі прымаць можна, бо, як гаворыць метэаролагі, тэмпературна спрыяльныя для шпацыру тры градусы як у нас, так і ў вас. Хай трымаецца да канца харошае і роўнае прадвесне.*

*Цісну руку.*

*Ул. Калеснік*
*Тэль: 65486*

«Чарадзей беларускай паэзіі, чарадзей беларускай мовы» неаднаразова бываў у Берасці, і пазней, калі не стала Уладзіміра Калесніка. Гэта былі незабыўныя сустрэчы з літаратарамі, пісьменнікамі, са студэнтамі ў Адукацыйна-асветным цэнтры імя Уладзіміра Калесніка.

Сваю прыхільнасць і ўдзячнасць паэт падкрэсліваў у зычлівых аўтографах на кнігах, падораных Зосі Міхайлаўне Калеснік. І звычайна гэтыя падарункі былі прымеркаваны да верасня — у гэтым месяцы нарадзіўся і Уладзімір Калеснік, і Зося Міхайлаўна. Кніга «Ратай, які пасвіць аблокі» прыйшла з такім аўтографам: *«Вяльможнай спадарыні Зосі, дачцэ Міхала — ашчаджальніцы вечнага агменю Беларушчыны — паклон, падзяка, захапленьне! Рыгор Барадулін 1. IX. 96 Менск»*.

Кніга ліставання і аўтографаў Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна «Дажыць да зялёнай травы» прыйшла ў хату Калеснікаў з такім дарчым словам: *«Шаноўнай Зосі Міхайлаўне Калеснік — памятаю Вашу шчырасьць і дзякую за ўсё! Рыгор Барадулін 3. IX. 08»*.

Кніга Ліставання Рыгора Барадуліна з мамай «Паслаў бы табе душу...» мае такі аўтограф: *«Вяльможнай Спадарыні Зосі Міхайлаўне Калеснік — зь нязьменнай пашанай і падзякай! Рыгор Барадулін 10. IX. 09 Менск»*.

Атрымала Зося Міхайлаўна і кнігу «Толькі б яўрэі былі!..» з такім словам-аўтографам Рыгора Барадуліна: *«Шаноўнай Зосі Міхайлаўне Калеснік — паклон! Рыгор Барадулін 17. IX. 2011 Мінск»*.

І апошняя прыжыццёвая кніга «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна» была даслана Зосі Міхайлаўне Калеснік з такімі словамі:

*«Вяльможнай спадарыні*
*Зосі Міхайлаўне Калеснік —*
*паклон,*
*дзякуй,*
*зычэнне ўсяго светлага*
*і здаровага:*
*Уладзімір Андрэевіч першы*
*заўважыў мяне і блаславіў.*
*Заўсёды помню.*

*Рыгор Барадулін*
*3.XI. 2013 г. Менск».*

Чытайма Рыгора Барадуліна. Адкрывайма «паэта неверагоднай сілы і красы», адкрывайма сябе і свой народ, сваю мову. Бо сапраўды, «для таго, каб мы не зніклі, Бог пасылае нам такіх чараўнікоў, як Рыгор Барадулін, які й боскімі малітвамі, і паганскімі заклёнамі ў «Самоце паломніцтва», «Міласэрнасці плахі», «Евангеллі ад Мамы» аберагае нашу мову, а значыць і народ. Тое самае ён робіць і ў «Вушацкім словазборы» (Уладзімір Някляеў).

Пачуйма малітоўнае слова Рыгора Барадуліна...

*Божа, паспагадай усім —*
*І магутнаму, і слабому,*
*І відушчаму, і сляпому,*
*Каб у згодзе жылося ім.*

*Божа, паспагадай усім,—*
*Каб вайной не ўшоў*
*Брат на брата,*
*Каб ржавела сякера ў ката,*
*Каб вячэраю пахнуў дым.*

*Божа, паспагадай усім,*
*Каб цяплелі пагляды людзей,*
*Каб у старцаў не кралі кія,*
*Нічых не кралі радзім.*

*Да любові, да чысціні,*
*Да свята, да святога ўлоння,*
*Усявышні, заўтра і сёння*
*Заблуканыя душы вярні.*

# Святыя грэшнікі



Станіслаў СУДНІК

Яны былі ўсе грэшныя. Яны — гэта сейлавіцкая шляхта, паднятая па паспалітым рушэнні і кінутая ў пекла гэтай вось вайны. Іх было многа. Разам з Ліпніцкімі іх было больш за сто чалавек, цэлая харугва, і гэтай раніцай яны былі ў першай лініі войска Вялікага Княства Літоўскага.

Яны былі грэшныя, і грэх у кожнага быў свой, а то і не адзін.

Пан Ігнась любіў выпіць. Ён мог знайсці гарэлку ці віно ва ўсякім месцы зямной кулі, не кажучы ўжо пра роднае наваколле. Ён і цяпер сядзеў у сядле, ужо добра пахмяліўшыся пасля ўчарашняй папойкі. Галава яму не балела, і ён весела і бадзёра глядзеў на свет.

Пан Язэп любіў жанчын. Рэдка якая ўдовая шляхцянка, а не, дык і мужычка пазбегла яго ласкавых рук. Не раз даводзілася яму выскокваць у акно і ад замужніх, калі муж якой не ў час вяртаўся дадому. І гэтую ноч ён не змарнаваў і не даў яе змарнаваць маладой, вабнай маркітанцы. Цяпер ён сядзеў у сядле, задаволены сабой, прытомлены ў пэўных частках цела, але поўны сілы ў руках.

Пан Стась любіў пахваліцца. Калі надаралася яму злавіць шчупака, дык быў той шчупак фунты тры — не меш, хоць і змяшчаўся на адну патэльню. Калі ўдавалася падстрэліць зайца, дык быў той заяц велічынёю з казу. І сёння яго чакаў недзе самы спрытны варожы вершнік, якому пан Стась, безумоўна, дасць рады.

Пан Вінцэсь быў ганарысты. Не паступіцца шляхецкім гонарам для яго было важней за ўсё. Калі пасланец ад князя Радзівіла развозіў запрашэнні на баль і заязджаў першым не да яго, а да суседа насупраць, безумоўна, менш годнага шляхціца, пан Вінцэсь кіпеў ад абурэння і казаў, што пасля такой знявагі ніколі б не паехаў на той баль, але вось надарылася ў Нясвіжы пільная справа, то ўжо і да князя па дарозе заедзе. І сёння пан Вінцэсь стаяў у першым шэрагу і крайнім справа, і ніхто гэтае месца аспрэчыць не спрабаваў.

Пан Адась быў скупы. Грош, які трапляў у яго глыбокую кішэню, з вялікай цяжкасцю яе пакідаў. Жонка і дзеці хадзілі амаль што ў лахманах, але пан Адась на тое не зважаў. Нават ксяндзу, які ездзіў па калядзе, пан Адась насыпаў паўасміну не жыта, нават не ячменю, а аўсу. На заўвагу закрыстыяна адказваў, што ім з пробашчам ужо даволі надавалі, а гэта хай будзе каню, а на самай справе паўасміны аўсу важыла роўна ў два разы менш, чым тая ж паўасміна жыта. Сёння пан Адась быў спакойны. Ад'язджаючы, ён пакінуў усе грошы такой жа скупой, як сам, маці. То, калі што, вораг на ім не пажывіцца.

Пан Болесь быў злодзей. Не, не тое, каб краў нешта ў суседзяў, не. Пан Болесь быў вялікакняскі злодзей. Ён краў у вялікакняскім лесе. Гэта, мусіць, гледзячы на яго наш народ склаў прыказку: «Хто ў лесе — не злодзей, той дома — не гаспадар». Гаспадарка ў пана Болеся была новая і дагледжаная, але каб хто папрасіў які квіток хоць на адно палена, дык не прычакаў бы. І сёння пан Болесь ведаў: калі што, то дошкі на труну яму ляжаць пад паветкай. Вядома, з вялікакняскага дрэва, але пазычаць не давядзецца.

Пан Броніс быў пляўнічы. Грэх яго быў не ў тым, што ён залішне хваліўся здабычай. Ён сапраўды часцяком вяртаўся з лесу не з пустымі рукамі; грэх быў у тым, што вяртаўся ён з княжацкага лесу з тушай ці ласа, ці аленя, на якіх паляванне было забаронена. І сёння пан Броніс меў надзею на сваю спраўную стрэльбу і трапнае вока.

Пан Богусь быў бязбожнік. Не тое, каб атэіст там які, а так называў яго пан пробашч за тое, што пан Богусь насуперак свайму імені рэдка бываў у касцёле, а на споведзі быў, можа, два разы: на першай і… калі моцна захварэў ды думаў, што памірае. Пан Богусь у даўгу не заставаўся і казаў, што пачакае пана пробашча каля брамы ў пекла, і яшчэ не вядома, для каго там падрыхтаваныя катлы больш гарачыя. Цяпер ён шкадаваў, што не сказаў пану пробашчу, за што таго чакае пекла, але няхай…

Пан Казік быў ілгун. Што праўда, наўмысна ён нікога не абманваў, але любіў расказваць самыя неверагодныя гісторыі, якія з ім адбываліся, хаця ўсе ведалі, што нідзе ён не быў і нічога такога з ім не здаралася. Каб дзе ў Еўропах, дык яго назвалі б пісьменнікам, друкавалі б яго гісторыі ў кніжках і плацілі б яшчэ немалыя грошы. А тут на кожнай споведзі каяўся, што зноў увёў у зман шаноўнае панства і люд паспаліты сваёй чарговай казкай. Затое цяпер, калі пашанцуе, дык ён распавядзе чыстую праўду пра гэтую вайну, і ніхто не скажа, што ён нешта выдумаў. Калі толькі пашанцуе…

Пан Тадзік быў гультай. У вачах людзей. Сам пра сябе ён так не думаў. Ну і што, калі ён ніколі не ішоў там, дзе можна пад'ехаць, што ніколі не стаяў, дзе можна было сядзець, што ніколі не сядзеў там, дзе можна было ляжаць. Гэта ў яго свежы чалавек мог запытацца: «Чаму пан дровы седзячы коле?» А пан Тадзік спакойна адказваў: «Спрабаваў лежачы, нічога не выходзіць».

Пан Антось быў хцівы. Мо не хцівы, мо лішне гаспадарлівы, але ён умудраўся пажывіцца нават там, дзе іншаму і ў галаву прыйсці не магло. Неяк быў прысабечыў мясцовы мост і з паўгода браў на ім мыта з рознага падарожнага люду, пакуль не нарваўся на павятовага чашніка, якога не пазнаў, бо той першы раз у жыцці быў цвярозы і выглядаў не так, як звыкла. Затое цяпер пан Антось спадзяваўся на добры луп, калі, канешне, самога не аблупяць.

Пан Чэсь быў жартаўнік. Жартаваць ён пачынаў з сябе, пераходзіў на суседзяў, і так па ранжыру. Каб мог, дабраўся б да вялікага князя, але неяк няўдачна зачапіў быў пана ваяводу, дык з таго часу вышэй за слуцкіх начальнікаў нікога не чапаў.

Пан Мечысь быў гандляр. Не купец. Купец прадае, купляе і з таго прыбытак мае. А пан Мечысь на нясвіжскім рынку, мо маючы і зашмальцованага пеняза ў кішэні, мог наладзіць гандаль за якуюнебудзь карову, збіць цану да кошту казы і, сказаўшы, што збегае да воза па грошы, даць лататы. У выніку то гаспадару каровы яшчэ і падзякаваць трэба было пану Мечысю, бо, задураны балбатнёй «пакупніка», мог і аддаць тую карову па цане казы. А так, лічы, абышлося…

І так адзін за адным да апошняга шэрага. А там…

Пан Ясь быў бедны. Паводле Святога Пісання беднасць — не грэх, а якраз наадварот. Але ад яго беднасці гаравала жонка, гаравалі дзеці. Пан Ясь не быў гультаём ці п'яніцам, не быў бязбожнікам ці бяздарам. Яму проста не шанцавала. Ні ў чым. Ніколі. Дзе б што ні здарылася, то бяда будзе ў пана Яся. У паводку вымакне жыта ў лагчыне ў пана Яся, у суш высахне на гары ў пана Яся. У абозе зломіцца воз у пана Яся, у паходзе раскуецца конь у пана Яся. Ды які там конь — конік, апошні ў гаспадарцы. Дома не засталося нават жарабяці. Пан Ясь сядзеў на сваім коніку ў апошнім шэрагу, у даматканых барвах, і ніколькі не перажываў, суцяшаючы сябе, што падчас атакі ён нагоніць усіх і паспее ў тую бітву, і пэўна ж стрэліць са свайго старога пістоля, і пэўна ж намахаецца ад душы сваёй старэнькай шабляй.

Пан Ролюсь быў гарачы. Лішне гарачы. Ён таксама стаяў у апошнім шэрагу. Пан харунжы паставіў яго туды строгім-найстрогім загадам, бо з першага ці другога шэрага пан Ролюсь мог ірвануць на ворага, не чакаючы каманды, мог змяшаць увесь шыхт, мог унесці поўнае бязладдзе. Ён на сваім гусарскім жарабцы і з апошняга шэрага вырвецца наперад, але гэта будзе ўжо пасля пачатку атакі — і нікому не зашкодзіць. Наадварот, пан Ролюсь будзе таранам ламаць варожыя шэрагі, робячы праход для іншых…

І вось гэтыя грэшнікі раптам усе і адразу, мо не адразу, а адзін за адным сталі святымі. Яны пайшлі ў атаку ў першай лініі войска Вялікага Княства і палеглі ўсе. Ні аднаго параненага. Яны палеглі — не баронячы сваё ўласнае жыццё, яны палеглі — не баронячы свае сем'і. Яны палеглі, баронячы Айчыну, Бацькаўшчыну, ніколі не бачаную імі цалкам, але заўсёды любімую, ніколі не пройдзеную, але самую прыгожую менавіта там, у няпройдзеных мясцінах, мілагучную ў сваіх песнях і страшную да дрыжыкаў у сваіх казках. Гэтая Бацькаўшчына ніколі не была для іх занадта ласкавай, але яны даравалі ёй і строгасць, і абыякавасць, і няўвагу. Яны ніколі нічога лішняга ад яе не прасілі. У Бога прасілі больш і часцей. А Бацькаўшчына… Яна была таксама недзе там, каля Бога. Толькі з той розніцай, што калі ў Бога прасілі нешта для сябе, то Бацькаўшчыне імкнуліся даць нешта ад сябе.

Сёння яны аддалі апошняе: свае жыцці, і іхнія душы падняліся над полем, кіруючыся проста да райскай брамы. Душы яшчэ бачылі поле бою, яшчэ пазнавалі свае целы, пасечаныя, паколатыя, прабітыя кулямі. Бачылі, як другая лінія войска Вялікага Княства біла і крышыла ў шатканаку ворага, не дабітага імі. Другая лінія прайшла над іхнімі целамі і спынілася на беразе Нёмана, па якім сплывалі ўніз недабіткі варожых колішніх палкоў.

Душа пана Богуся паспела пашкадаваць, што не сустрэне душу пана пробашча каля брамы пекла, а душа пана Яся паспела падумаць, што, можа, пан ваявода дасць яго жонцы якога коніка ўзамен за таго, што застаўся на полі, можа, дасць нават лепшага.

Душы трошкі запаволілі палёт, пачакаўшы, пакуль іхнюю дружную кампанію дагоняць душы пана харунжага і пана Ролюся, якія біліся да апошняга з невыказным спрытам і нечалавечай адвагай, з'ехаўшыся ў баі разам і ўтварыўшы шыхт з двух чалавек, seклі ўсё, да чаго даставалі шаблі, і былі расстраляныя з дзясятка рушніц і пістоляў здалёк, бо зблізку не змаглі б.

Душы падымаліся ўсё вышэй, пакінуўшы на зямлі і грэшныя свае целы, і ўсе грахі пры іх. Целы і грахі прыме зямля Бацькаўшчыны, а душы, магчыма, дасягнуць Нябеснай Айчыны, але яны пра гэта яшчэ не ведалі, а мы і не даведаемся ніколі, ці ёсць у тым Раі тая Айчына і ці сапраўды яна называецца Нябесная Беларусь, як кажуць цяпер. Пэўна ж ёсць, бо дзеля чаго ж тады ўсё: усе пакуты і подзвігі тут, на Беларусі Зямной?

*29. 02. 2024*



# Прэзентацыя



Міхась ЗІЗЮК

Супрацоўнікі раённай бібліятэкі пастараліся стварыць у зале святочную атмасферу. На сталах, якія стаялі літарай П, паставілі прыгожыя кветкі ў гаршках — іх сабралі ці не з усёй бібліятэкі. На стойку з палічкамі для кніг паставілі партрэты класікаў, ніжэй красаваліся навюткія кнігі вершаў Антона Пятровіча Валуя пад назвай «Крыгалом», яшчэ ніжэй раскладлі нумары раённай газеты «Новы шлях» з вершамі гэтага паэта. Стойку аздобілі стужкаю са штучных кветак. Падлога зіхацела чысцінёй, на падваконні круціліся няўрымслівыя вераб'і, нават вячэрняе сакавіцкае сонца, што зазірала ў вокны, падбаўляла бадзёрасці і настрою. Сам аўтар усхвалявана таптаўся на ўваходзе ў залу, сустракаючы гасцей. Некалькі жанчын пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту ўжо сядзела за сталамі. Было відаць, што яны добра ведаюць адна адну, бо паціху аб нечым гаварылі, паглядваючы на Антона Пятровіча. Людзі падходзілі, але няспешна, па аднаму. Вось прыйшла супрацоўніца раённай газеты з камерай, за ёю яшчэ адна жанчына. Антон Пятровіч нярвова паглядваў на гадзіннік: да пачатку прэзентацыі лічаныя хвіліны, а ў зале дзясятка паўтара, мо крыху болей. Канешне, яшчэ збяруцца супрацоўнікі бібліятэкі, але ж не на тое разлічваў паэт. Да яго падышла загадчыца бібліятэкі Кацярына Іванаўна Шпетка — даволі прывабная жанчына сярэдніх гадоў з кароткаю стрыжкаю і густа нафарбаванымі вуснамі:

— Ну што, Антон Пятровіч, будзем пачынаць.

— Мо, пачакаем крыху? Думаю, яшчэ падыдуць людзі, — адказаў той.

— Так, некалькі хвілін пачакаем. Зараз збяруцца нашы — і пачнем.

Паэт уздыхнуў. І ў раённую газету даваў аб'яву — адшкадаваў грошай, — і запрашэнні сяму-таму даслаў, і па горадзе абвесткі расклеіў, а людзей тых кот наплакаў. Былыя калегі, жанчыны, не прыйшлі, а ён жа цукеркі купляў ім на сакавіцкае свята, вершы пра каханне чытаў.

Антон Пятровіч да пенсіі працаваў урачом у раённай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, а перад самай пенсіяй аўдавеў, калі жонка памерла ад анкалогіі. Вершы пачаў пісаць позна: муза аднойчы наведалася да яго пасля сарака, ды так і засталася. Антон Пятровіч спачатку дзяліўся сваімі творамі з жанчынамі, бо з мужчын там было толькі двое, ён і загадчык, калі не лічыць вартаўнікоў. Жанчыны хвалілі, выказвалі сваё захапленне, і акрылены Валуй панёс вершы ў раённую газету. Галоўны рэдактар, Іван Іванавіч Брыцько, пачытаў, нечага пакрывіўся, стаў доказваць Антону Пятровічу, што вершы недасканалыя, але той быў няўмольны. Людзям падабаецца, а тут заселі кансерватары-цемрашалы. Ён жа не першы год піша, вопыт мае, руку набіў. Рэдактар палічыў за лепшае не даводзіць справу да звады і паабяцаў пачытаць вершы больш уважліва, а, пасля, магчыма, і надрукаваць. Але Антон Пятровіч быў не з тых, хто здаецца без бою, муза падганяла яго. Ён двойчы на тыдзень наведваўся да галоўрэда, дапытліва цікавіўся пра лёс сваіх твораў, і Брыцько здаўся. Некалі ён сам пісаў вершы, друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. Таму сяк-так паправіў вершаскладанні «юнага» паэта і даў у нумар. Антон Пятровіч купіў з дзясятак газет, паказваў усім знаёмым, некаторым дарыў з аўтографам.

Пасля Антон Пятровіч стаў дасылаць вершы ў рэспубліканскія часопісы і газеты, дзе яго таксама не надта хацелі друкаваць. Але муза не спала, яна дапамагла паэту асядлаць Пегаса. І Валуй на крылах ляцеў у сталіцу, ганьбіў тых, хто заціскае голас самародкаў з глыбінкі, абяцаў знайсці ўправу. Дзе-нідзе здаваліся, правілі і друкавалі вершы. Так Антон Пятровіч стаў знакамітым мясцовым паэтам, яго іншым разам запрашалі ў раённую бібліятэку на творчыя сустрэчы, калі-нікалі і ў школы. У шэсцьдзясят Валуя адправілі на пенсію, і ён зразумеў: пара́ стаць сапраўдным паэтам. Грошы пакрысе сабраў, і праз восем месяцаў свет пабачыла кніга вершаў. Антон Пятровіч старанна рыхтаваўся да прэзентацыі. Склаў спіс тых, каго трэба абавязкова запрасіць, і спіс тых, каго не абавязкова. Затым доўга правіў тыя спісы, перакідваючы прозвішчы. Безумоўна, падзею трэба адзначыць. Так склаўся спіс тых, хто будзе запрошаны на дамашнюю частку прэзентацыі. Ён таксама правіўся не адзін раз. Дачка мелася быць, але ў апошні момант захварэлі дзеці, і яна не прыехала.

— Паважаныя таварышы, — Кацярына Іванаўна ўзяла ў рукі кнігу. — Сёння мы з вамі прысутнічаем на важнай культурнай падзеі, я б сказала, знакавай для нашага горада. Кніга вершаў Валуя Антона Пятровіча «Крыгалом» несумненна зойме пачэснае месца ў нашай бібліятэцы. Я не буду доўга гаварыць, вы ўсе ведаеце Антона Пятровіча, лепш папросім аўтара расказаць пра новую кнігу, пачытаць свае новыя творы. Папросім, таварышы.

Таварышы згадзіліся і падтрымалі яе апладысментамі. Асабліва старалася Ала Уладзіміраўна Марук — супрацоўніца бібліятэкі, разведзеная жанчына перадпенсійнага ўзросту, у дадатак суседка Антона Пятровіча. Худая, з доўгімі чорнымі валасамі, з акулярамі на доўгім носе, яна нечым нагадвала вельмі строгую і ўедлівую настаўніцу. Пасля смерці жонкі Валуя яна стала наведвацца да яго, хваліла вершы, прыносіла розныя стравы, прапаноўвала сваю дапамогу ў хатніх справах — карацей, усяляк старалася спадабацца яму. Разлік у яе быў просты: перабрацца да ўдаўца, а сваю кватэру пакінуць сыну з сям'ёю. Але пакуль яе намаганні не мелі плёну. Яна не ведала, што суседу падабаецца іншая супрацоўніца бібліятэкі — маладзейшая і незамужняя Ірына Мышкіна, пышная бландзінка з добрай доляй касметыкі на твары. Валуй, калі наведваў бібліятэку, прыносіў Мышкінай шакалад, чытаў вершы і ўсяляк выказваў свае пачуцці. Мышкіна ветліва сустракала, усміхалася яму, брала падарункі, але далей прыязных усмешак і мяккіх дотыкаў узаемаадносіны ў іх не зайшлі.

Антон Пятровіч узяў правай рукой кнігу, артыстычна ўзмахнуў левай:

— Дарагія мае сябры, таварышы! Я вельмі рады прэзентаваць сваю першую кнігу ў гэтай зале. І мяркую правесці шэраг прэзентацый і ў іншых залах, дзе збяруцца сапраўдныя знаўцы паэзіі. А сёння для вас мой «Крыгалом».

Далей Антон Пятровіч доўга і нудна расказваў, як і калі да яго завітвае муза, каму прысвячаў свае вершы, што плануе напісаць яшчэ. Некаторыя з прысутных пасля першых дзесяці хвілін выступлення цішком нешта праглядалі ў тэлефоне. Калі Валуй кідаў позірк у залу Ала Уладзіміраўна расплывалася ў радаснай усмешцы, паказваючы ўсім сваім выглядам, што ёй усё падабаецца. Праўда, яе нервавалі паводзіны Колі Рапушкі па мянушцы Журналіст — маленькага лысаватага мужчыны гадоў сарака, аматара выпіць, асабліва «на дурніцу». Ён і сапраўды раней працаваў у раённай газеце, а неяк зімовою парою «пад градусам» няўважліва пераходзіў праз дарогу, трапіў пад машыну. Тады ў яго штосьці парушылася ў галаве, Рапушку звольнілі на пенсію па групе. Коля лічыў сябе вельмі інтэлігентным чалавекам, хадзіў на ўсе культурныя мерапрыемствы, бо нярэдка пасля іх ладзіліся фуршэты, а там можна было выпіць і закусіць. Гэтую частку культурных мерапрыемстваў Коля любіў болей. Сёння Журналіста чамусьці пасадзілі за гаршком з архідэяй, якая замінала яму бачыць Валуя. Коля круціўся то ўправа, то ўлева, чым раздражняў Алу Марук. Урэшце ён не вытрымаў і рашуча, са скрыгатам, адсунуў гаршчок. Усе позіркі скіраваліся на Колю.

— Антон Пятровіч, людзі хочуць паслухаць вашы вершы, пачытайце, калі ласка, — перабіла Валуя Кацярына Іванаўна, якую таксама стаміла манатоннае і нуднае выступленне.

— З задавальненнем.

Антон Пятровіч прачытаў некалькі вершаў, Ала Уладзіміраўна старалася апладзіраваць як мага гучней. Пасля некалькі слоў сказала Кацярына Іванаўна, за ёю выйшаў Коля Журналіст, расхвальваў вершы, якія не чытаў ніколі, а «Крыгалом» назваў лепшай паэтычнай кнігай года ў краіне.

Наспеў час падпісваць кнігі. Паэт урачыста падарыў пяць асобнікаў раённай бібліятэцы, а купіць кнігу першай паспяшалася Ала Уладзіміраўна. Яна папрасіла Мышкіну зрабіць на свой тэлефон здымак з аўтарам і кнігай. Пасля для публікацыі ў раённай газеце карэспандэнтка зрабіла агульны фотаздымак і некалькі здымкаў аўтара з кнігамі.

Неўзабаве ў зале засталіся толькі тыя, каго Антон Пятровіч запрасіў да сябе «абмыць» кнігу: Кацярына Іванаўна, Ала Уладзіміраўна (бо яна дапамагала яму рыхтаваць стол), Ірына Аляксееўна, стары сябар паэта неўрапатолаг раённай бальніцы Фёдар Крукоўскі, ды яшчэ Брыцько павінен прыйсці асобна. Застаўся і Коля Журналіст, якога ніхто не запрашаў, але ён відавочна чакаў працягу прэзентацыі. Валуй памуляў вуснамі, не ведаючы, як адшыць нечаканага госця, але ўзгадаў, што той расхвальваў яго вершы і кнігу. Эх, адзін раз Марка жэняць: запрасіў яшчэ і Колю.

Сакавіцкае паветра бадзёрыла, за вясёлымі размовамі госці на чале з гаспадаром дайшлі хутка.

— Жанчынкі, дапамажыце мне, — Ала Уладзіміраўна хуценька распранулася і ўзяла на сябе ролю гаспадыні, даючы зразумець, што яна тут не проста госць. — А мужчыны хай пакуль рыхтуюць моцныя напоі.

На стале з'явіліся катлеты, бульба, купленая вяндліна, салёныя гуркі з памідорамі з запасаў Алы Уладзіміраўны, салаты — закускі не бракавала. Валуй урачыста паставіў на стол некалькі бутэлек «беленькай», дзве пляшкі віна і абвясціў:

— Прашу. Як кажуць, чым багаты. Займайце месцы адпаведна купленых білетаў.

Прэзентацыя пайшла весялей. Стары сябар Крукоўскі яшчэ раз павіншаваў аўтара, усе дружна выпілі. Ледзь кульнулі па другой, як у дзверы пазванілі: то быў галоўны рэдактар.

— Прашу прабачэння, справы, — развёў рукамі Брыцько.

— Нічога, нічога, праходзьце, Іван Іванавіч, — Валуй гасцінна правёў рэдактара за стол, падсунуў крэсла. — Мы толькі селі.

Пакуль гаспадар сустракаў госця, Коля паспеў кульнуць дзве чаркі: калі яшчэ так пашанцуе, не трэба губляць час і магчымасці.

Неафіцыйная частка прэзентацыі працягвалася. Госці ўжо не зважалі на нейкія ўмоўнасці, пачырванелі і весела гаманілі. Мужчыны вырашылі выйсці пакурыць. На перакуры падпіты і памякчэлы рэдактар пахвальваў паэта, абяцаў падрэдагаваць вершы для наступнай кнігі. Коля адно паддакваў і пераконваў Антона Пятровіча, што яго вершы не горшыя за вершы Купалы і Коласа. Валуй захмялеў не толькі ад гарэлкі, а, мо, болей і ад пахвалы.

Калі ў ход пайшла пятая бутэлька, Антон Пятровіч абвясціў танцы. Ён адразу ж запрасіў Ірыну Аляксееўну, прыабняў яе і стаў нашэптваць жанчыне, што яна проста багіня, паабяцаў прысвяціць ёй цэлую плойму вершаў. Мышкіна весела смяялася. Як не стараўся Антон Пятровіч, яна не давала магчымасці добра падпітаму паэту прыціскацца да яе, мякка, але настойліва адсоўвалася, прыбірала рукі, калі тыя апускаліся ніжэй дазволенага. Брыцько запрасіў Кацярыну Іванаўну; яны павольна круціліся пад музыку і паціху размаўлялі. Марук сядзела з каменным тварам, адмовіўшы Крукоўскаму. А той і не настойваў — пайшоў запрашаць дзеля прыліку, — і вярнуўся за стол да Колі. Журналіст прапанаваў яму наліць «па кілішку», і Фёдар згадзіўся.

На трэцім танцы Валуй узяўся ўгаворваць Мышкіну застацца ў яго начаваць, палез цалавацца. Ірына Аляксееўна, вызваліўшыся з абдымкаў, пайшла за стол. Разгарачаны паэт не пакінуў надзеі скарыць сваю прыгажуню. Ён запрасіў гасцей за стол і, трымаючы Ірыну Аляксееўну за руку, прапанаваў мужчынам выпіць за жанчын стоячы. Мужчыны падняліся. Раззлаваная Ала Уладзіміраўна пацягнулася па салат і, як бы незнарок, зваліла талерку з ежаю на суперніцу. Мышкіна роспачна войкнула і падскочыла, Марук замармытала прабачэнні. Усе прымоўклі. Нямая сцэна доўжылася некалькі імгненняў.

— Карова, — працадзіў скрозь зубы добра падпіты Валуй. — Трэба ж глядзець. Ірына Аляксееўна, не перажывайце, я куплю вам новую сукенку.

Марук пачырванела, закрыла твар рукамі, зрабіўшы выгляд, што расплакалася. Коля ікнуў і, хістаючыся, падняўся:

— Так нельга, Пятровіч. Прасі прабачэння, інакш я буду патрабаваць сатысфакцыі.

— Хто ты такі, каб мне ўказваць? Я — паэт, а ты хто? П'янтос па мянушцы Журналіст.

І ён засмяяўся. Коля падышоў да яго ўсутыч.

— Га...но ты, а не паэт, і вершы твае га...няныя.

Пасля гэтых слоў ён адвесіў Валую аплявуху. Антон Пятровіч ад нечаканасці ледзь не паваліўся. Ачомаўшыся, пачырванеў і зароў:

— Ах ты...!

Яго вока зачапілася за амаль пустую бутэльку гарэлкі на стале, ён схапіў яе і стукнуў Колю па галаве. Але ці то добра не разлічыў месца для ўдара, ці то Журналіст хістануўся, — бутэлька толькі слізганула па галаве, і Валуй паваліўся на суперніка. Яны ўпалі разам. Жанчыны закрычалі, мужчыны падхапіліся, узяліся раздымаць «паэта» і «крытыка».

— Каб нагі тваёй тут не было! Вон! — крычаў Антон Пятровіч, якога трымаў Крукоўскі.

— Сам ідзі са сваімі кнігамі ведаеш куды? У прыбіральню! — крычаў у адказ Коля, якога, у сваю чаргу, трымаў за рукі Брыцько. Ён жа і павёў Колю ў вітальню апранацца. Той нешта яшчэ крычаў, але паслухмяна абуў чаравікі, апрануўся і выйшаў.

— Прабачце, я пайду, — зазірнуў у пакой Брыцько, — трэба ж яго давесці.

— Ой, мы таксама пойдзем, — падхапілася Кацярына Іванаўна, — ужо позна. Дзякуй, Антон Пятровіч, за цудоўны вечар, усё было добра. Праўда, дзевачкі? Да пабачэння ўсім.

«Дзевачкі» моўчкі пасунуліся за дырэктаркаю. Ала Уладзіміраўна памкнулася было нешта сказаць, але Кацярына Іванаўна падхапіла яе за руку і пацягнула за сабою. Антон Пятровіч моўчкі ўзяў бутэльку, наліў сабе і сябру.

— Давай вып'ем.

— Мо хопіць, Антон? Глядзі, колькі выпілі ўжо.

Валуй зірнуў на пусты посуд, гмыкнуў і выпіў.

— Што, і табе не падабаюцца мае вершы? Ты скажы, давай. Скажы, як ёсць, як мой сябар.

— Антон, чаго ты ўчапіўся за слова? Вершы як вершы. Ну... трохі перагнуў ты, не трэба было так ужо з жанчынаю.

— А-а-а, усё адно: і тая, і гэтая. Эх, каб іх...

Ён падняўся і пайшоў у прыбіральню. Калі вярнуўся, то ўбачыў, што Крукоўскі апранаецца.

— Антон, я пайду, мне заўтра на працу. А ты не перажывай, усё добра атрымалася: і прэзентацыя, і вечар. — Ён змоўк, а пасля дадаў: — Ну, амаль. Усё, пакуль.

Дзверы зачыніліся. Антон Пятровіч нейкі час стаяў у вітальні, пасля паглядзеў на сябе ў люстэрка і хацеў ужо ісці ў пакой, калі заўважыў нейкі прадмет пад палічкай для абутку. Ён нахіліўся і выцягнуў з-пад яе згубленую кімсьці кнігу вершаў «Крыгалом».

# Горкі напой



Ірына ХАДАРЭНКА

***

*Там свайго народа рэшткі*
*Бачыў я, што варты жалю,*
*Як сухое лісце ўвосень,*
*Бурай гнанае на захад.*

***Г. Лангфэла, «Спеў аб Гаяваце»***

*Стагоддзе цывілізацыйнай адзіноты —*
*Нязначны юбілей, праскочыць*
*непрыкметна...*

*Відаць, дзеля таго тут*
*нішчылі шляхетнасць,*
*Каб корпаўся народ*
*за мястэчковым дротам.*

*Дурныя звычкі — адкладаць*
*свой лёс на «потым»,*
*Сачыць за руйнаваннем нетраў*
*запаветных...*

*Даўно ўжо стала філіялам*
*апраметнай*
*Гнілое, змрочнае, маўклівае*
*балота.*

### Сябрам

*Слота, золь, туманы і вятры...*
*Шэры бруд імкнецца ўсё запляміць.*
*І — раптоўнай згадкай — снегіры*
*Ажыўляюць трапяткую памяць.*

*У дрыгве народ мой мае схоў;*
*Тут няма ні згоды, ні адзінства.*
*Чырванее вобраз снегіроў*
*На бялюткім тле майго дзяцінства.*

*Звабіла, сябры, вас далячынь*
*У замежжы блізкім і далёкім.*
*А цяпер — абапал крумкачы*
*Гарлапаняць і мазоляць вока...*

### Два буслы

*Як прыгожа было!..*
*На вясковым двары*
*Дзве цудоўныя птушкі*
*гняздзіліся ўлетку.*
*А цяпер аздабляюць яны этыкетку*
*На бутэльцы з гарэлкай,*
*што п'юць жыхары.*

***

*Не расквітнела папараці кветка —*
*І змізарнеў тутэйшы чалавек.*
*Гуляюць кумальганы па палетках,*
*Ератнікі ўчыняюць*
*гвалт і здзек.*

*А з твані лезуць злыдні, ваўкалакі,*
*Імкнуцца панаваць,*
*смяюцца ў твар.*
*Гані іх прэч,*
*хай спрахнуць небаракі!*
*Зямля ж — ТВАЯ,*
*і ТЫ тут гаспадар!*

### Загадка волі

*Заўсёды марыла аб ёй*
*І — разам з тым — яе не мела.*
*Яна не можа быць маёй,*
*Яна не мае ўзросту, цела.*
*Яна так дзіўна існуе —*
*Па-за прасторай, па-за часам.*
*Адзіны шанс спазнаць яе —*
*Калі знаходзішся сам-насам.*

### Паэзія

*Кон спляці карэннямі ў зямлі,*
*А ўяўлення смаглыя азёры*
*Смуткам і крывёю наталі,*
*Каб на космас пазіраць праз зоры!*
*Намалюй і раствары нашчэнт*
*Гарызонты неадольных думак!..*

*Горкі твой напой, нібы абсэнт;*
*Толькі ён — найлепшы падарунак.*



Фота pxhere.com

# Хрызантэмная акварэль



Вольга ГРЫДЗЮШКА

### Хрызантэмы

*Кветкі сонца, хрызантэмы,*
*вас любілі каралі.*
*Восень позняя — ваш тэрмін*
*красавацца на зямлі.*
*Лебядзінай песняй лета*
*растрывожыце спакой*
*летуценніка, паэта*
*і прынцэсы не адной.*
*Колюць шэраня іголкі*
*вам пялёсткі, снег ляціць,*
*ды гусцее водар горкі*
*і мацнее прага жыць.*
*Вашу мужнасць, хрызантэмы,*
*не зламаюць халады,*
*як карону дыядэмы,*
*вы расквецілі сады.*
*Сціпла-велічна, па-царску,*
*з верасня і да зімы,*
*вы ствараеце ўсім казку,*
*і жывем у казцы мы.*
*Ні мароз, ні снег не тушаць*
*каляровыя агні —*
*хрызантэмы грэюць душу,*
*быццам радасныя дні.*
*І пакуль я буду ў тэме*
*у жыцця, ці горш, ці лепш,*
*напішу аб хрызантэме*
*новы верш.*

### Лістапад

*Медзь і золата кастрычнік*
*лістападу перадаў,*
*той багацце прагна лічыць —*
*не пашкодзіла б вада*
*ці туман, што ранкам вісне,*
*або шэрань слюдзяны,*
*дзе схаваць сухое лісце,*
*залатыя дываны?*
*На вачах дабро псуецца*
*ад дажджу і халадоў,*
*толькі сонейка ўсміхнецца —*
*хмары гоніць вецер зноў.*
*Восень вымакла да ніткі,*
*лістапад наскрозь прамок,*
*залатыя скарбы зніклі,*
*да зімы застаўся крок.*
*Замест золата карціны*
*дорыць снежню лістапад —*
*чырвань спелае рабіны*
*упрыгожыць лес і сад.*

### Бабіна лета

*Лета бабіна... Бабіна лета.*
*Неба чыстае, быццам шкло,*
*позні яблык, усмешкі кветак,*
*дарагое для ўсіх цяпло.*
*Дваццаць градусаў — гэта зранку.*
*Залаты дрэвы скідваюць плашч...*
*Толькі лета майго абяцанку*
*нам не здзейсніць ужо,*
*хоць заплач.*
*Мала часу, і ўсё не проста —*
*вып'ем лепш маладога віна!*
*Ад спякоты прыродзе млосна,*
*адпачыць хоча ўжо яна.*
*Ты не кліч больш паўднёвы вецер,*
*не хвалюй і рухому ртуць!*
*Чаму сонца асенняга дзеці —*
*хрызантэмы — цвітуць і цвітуць?*
*Глянь: на сонечных промнях —*
*кросны,*
*тчэцца тонкая лесвіца ў рай,*
*а па ёй падымаецца восень...*
*Лета бабіна, ты затрымай*
*яе колеры, гукі і пахі,*
*яе смутак, пяшчоту і хмель,*
*ветру моцныя крылаў узмахі,*
*хрызантэмную акварэль.*

# Веліч векавая



Уладзімір ВАСЬКО

***

*Калі любіў, як Бог,*
*сваіх зямных прарокаў,*
*не сып цяпер гарох*
*пустых, гнілых папрокаў.*
*Калі ўзлятаў арлом,*
*не падай, бы казяўка.*
*Калі грымеў, як гром,*
*дык шчанюком*
*не цяўкай.*

### На ўскрайку лесу

*Лясная цішыня,*
*як веліч векавая.*
*Крылатага каня*
*з-пад неба выклікае.*
*Задумаўся няўзнак*
*пры кволенькай прыкмеце:*
*паэт ці літбатрак*
*я ў гэтым грэшным свеце?*
*Да хвоі так прынік,*
*нібы да п'едэстала...*
*Прагрукатаў цягнік,*
*і зноў зацішна стала...*

***

*Крычы — не крычы,*
*а рэха не будзе:*
*духоўная пустка*
*зеўрыць наўсцяж.*
*Такі вось змарнелы,*
*знядужаны час,*
*такія панурыя,*
*хворыя людзі.*
*Чаго прычакаем?*
*Хто можа запэўніць,*
*што будзем разумна*
*і ўдумліва жыць?*
*І не кукарэкаць,*
*як раніцай пеўні,*
*а словам праўдзівым*
*паўсюль даражыць.*

### Вярба

*Абамлела вярба,*
*нахілілася долу,*
*заглядзелася ціха*
*ў люстэрка ракі.*
*Абмінаюць гракі*
*яе горкую долю,*
*і ніхто не падасць ёй*
*зімою рукі.*
*А вясною яна*
*самай першай прачнецца,*
*будуць белыя коцікі*
*ў неба глядзець.*
*І вясёлае сонца*
*ёй цёпла ўсміхнецца,*
*дапаможа сукенку*
*з лістоты надзець.*

# «Човен майго часу»

« Працяг.
Пачатак на стар. 1

З жывога жыцця ўзяў Васіль Вітка і гэтую нечаканую (і нечапаную, здаецца) тэму — як у вёсцы рыхтавалі ў «апошні шлях» памерлага. Уражлівыя дзіцячыя вочы (а хавалі паэтавага дзеда) ухапілі, нічога не прапусціўшы, усе падрабязнасці таго невясёлага рытуалу. Запомнілася яму, як «ляжаў на лаве дзед».

*І нібы на якое свята*
*Ці на кірмаш ён ехаць меў —*
*Уся яго збірала хата,*
*А ён збірацца не хацеў.*

*Як бы на ўсё махнуў рукою*
*І, падтуліўшы бараду,*
*Прасіў: пакіньце у спакоі,*
*Я з гэтай лавы не сыду.*

*А ўжо ваду нагрэлі ў печы,*
*Пад пахі дзеда узялі,*
*Над цэбрам шаравалі плечы*
*І доўга цёрлі мазалі*

*Каструбаватых тых далоняў,*
*Што перагладзілі наўкруг*
*Чужыя выцерабы, бłоні,*
*І дворны цэп, і цяжкі плуг.*

*Сарочку белую надзелі*
*І зноў — на покуць галавой,*
*І сталі плакаць, як умелі...*

Калі ідэалагічныя абцугі, якія доўгія гады трымалі савецкую літаратуру ў вузкіх рамках сацрэалізма, пачалі аслабляцца, на ўсю моц разгарнуўся і прыродны талент Васіля Віткі. Усё, што ляжала на душы, што яго турбавала і трывожыла, адкрыта, без аглядкі на каго б там ні было пераносіў ён на паперу ў паэтычных радках сваіх твораў. Расла і строгая патрабавальнасць да ўсяго, што выходзіла ў яго з-пад пяра.

Верш «Дарагія стрэлкі». Яму, паэту, якому «груkнула паўвеку», сябры, каб помніў, што «йдзе не ўгору, а з гары» падаравалі залаты гадзіннік. І паэт зразумеў іх намёк:

*Не мае права выйсці мелкім*
*Цяпер ні слова з-пад пяра:*
*Час лічаць дарагія стрэлкі —*
*За розум брацца, брат, пара.*

І трэба аддаць належнае Васілю Вітку: у яго творах новай пары мы не знойдзем нічога «мелкага», прахаднога. З самым важным, з усім набалелым ідзе ён да чытача.

А творчасць ягоную па-ранейшаму жывіла, як таго Антэя, родная зямля, яго любая Случчына, з якой ён не парываў ніколі:

*Будзеш ты усюды не разлучаны*
*З першымі ўспамінамі жыцця,*
*З ціхаю тугой па роднай Случчыне,*
*З шолахам альховага лісця,*

*З тою прыдарожнаю алешынай,*
*Што ў зацішшы пры шашы шуміць.*
*Хіба ёсць на свеце шчасце лепшае,*
*Як пад небам бацькаўшчыны жыць?..*

Туды, у бацькоўскі край, паэт заўсёды ляцеў, як на крылах:

*Дадому еду — і здалёк,*
*Нібы палотны белячы,*
*Бяжыць бярозавы гаёк,*
*Дарогу сцелюць Еўлічы.*

Адсюль, са сваіх Еўліч і ваколіц, у 1959 — 1960-х гадах Васіль Вітка прынёс у нашу літаратуру і праўдзівыя перліны прозы — проста цудоўныя апавяданні, якія, помню, так прыемна ўразілі тады чытача і якія даволі высока ацаніла крытыка. «Трывога ў Ельнічах», «Познія палыны», «Гуляшчы хлеб», «Баравіцкія музыкі», «Вікторыя» — гэтыя невялікія памерам творы больш і глыбей расказалі пра наш народ, чым іншыя раманы ці эпапеі.

Нельга не парадавацца, як натуральна і хораша вядзе ў іх гаворку аўтар, якая краса яго жывой народнай мовы, мовы Случчыны. Во, прыкладам, пачатак апавядання «Гуляшчы хлеб»: «Урвіцель, дык ён жа адразу і відзён па ўсіх яго выхілках, хоць і пнецца паказаць сябе: што-та я! Такога пазнаеш, як бы ён ні рызыкаваў, ні лез сляпіцаю ў вочы. З ім лепш не заводзься, не чапай. Хай яго сарочка не чапае. Ён настыраецца, а ты маўчы. І калі не хочаш цвяліць, то лепш гавары яму ў руку. Але ж і патачкі не давай, не папускайся, каб ва ўсім быў яго верх, бо няма ладу, да чаго ён можа дайсці з вялікае прапыхі».

У «кнігазбораўскі» том мы ўпершыню ўключылі ўсю прозу Васіля Віткі (апроч хіба чыста дзіцячых апавяданняў), яго вельмі яркія ўспаміны, публіцыстычныя артыкулы і актуальныя па сённяшні развагі пра літаратуру і літаратараў.

А як было нам абмінуць яшчэ паэтычныя творы дзеда Васіля для дзяцей? Яго ж як дзіцячага пісьменніка высока ацанілі ў шырокім свеце, узнагародзіўшы міжнародным ганаровым дыпломам імя Ганса Крысціяна Андэрсэна з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс дацкага казачніка. Старонкі нашага тома толькі ўпрыгожылі яго вершаваныя казкі «Вавёрчына гора» і «Буслінае лета», якія прыемна перачытваць не толькі дзецям.

Васіль Вітка — адзін са слаўнай кагорты выдатных мастакоў слова, якіх дала нашай беларускай літаратуры жытнёваільняная Случчына.

***2013***

## Масей СЯДНЁЎ

Само жыццё Масея Сяднёва — незвычайны, можна сказаць дэтэктыўны раман з нечаканымі перыпетыямі. Самыя значныя вехі гэтага рамана: першае вялікае каханне Масея (такое біблейскае імя даў яму пры хрышчэнні поп) да юнай пастушкі гусей Дусі ў роднай вёсцы Мокрае Касцюковіцкага раёна; вучоба ў Мсціслаўскім педвучылішчы, дзе ён пасябраваў з выдатнымі нашымі паэтамі Аркадзем Куляшовым, Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам; паступленне на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Мінскага педінстытута; знаёмства ў Мінску з народным паэтам Беларусі Янкам Купалам; неспадзяваны, зусім беспадстаўны (хаця падстава была: пісаў жа на беларускай мове вершы!) арышт энкавэдыстамі; амаль год катаванняў у мінскай турме; «этапы большого пути» ў Архіпелаг ГУЛаг — Новасібірск, Томск, Краснаярск, Іркуцк, Улан-Удэ, Чыта, Хабараўск, Уладзівасток, Японскае мора, Магадан; чатыры гады катаргі на Калыме (дзе «золото роют в горах»); «дастаўка» ў 1940 годзе грукатлівым таварняком у халодным закратаваным вагоне-цялятніку на перасуд у «родную» мінскую турму; амаль яшчэ адзін год здзекаў там з боку турэмшчыкаў; бамбаванне нямецкімі самалётамі Мінска, якое скаланала сцены турмы ў першыя дні вайны; валачэнне на ўсход у больш чым кіламетровай калоне дахадзяг-зэкаў пад дуламі чырвоназорых канвіраў ды пад аглушальныя посвісты і выбухі бомбаў з чарнакрыжых сцярвятнікаў; удачныя ўцёкі каля Чэрвеня з-пад куль энкавэдыстаў і шчаслівае вяртанне «блуднага сына» на бацькоўскі парог; кожнадзённыя хованкі ад новых гаспадароў — немецкіх акупантаў — і ад сваіх «народных мсціўцаў», якім трэба было дабіць «ворага народа»; ад'езд у 1943 годзе ў Беласток, дзе трапіў у спрыяльнае асяроддзе беларускіх інтэлектуалаў, а потым — доўгія гады эміграцыі, дзе даволася цярабіць новую жыццёвую дарогу...

Гэты напісаны самім жыццём раман-эпапею Масей Сяднёў перанёс на паперу ў выглядзе сваіх твораў, асабліва раманаў «Раман Корзюк» і «І той дзень надышоў», якія нельга чытаць без вялікага душэўнага ўзрушэння.

Студэнт Мінскага педінстытута Масей Сяднёў прыехаў да бацькоў у родную вёску Мокрае на свае апошнія летнія канікулы. Мілыя сэрцу сцежкі маленства, адкрытыя сонцу і воблакам любыя разлогі палёў і лугоў, дзе так добра блукаць на вольнай волі, шумныя гулянкі вясковай моладзі, заляцанні да дзяўчат... Што можа быць лепшае для студэнта?

Ды зусім неспадзявана шчасцівыя дні канікул азмрочвае прыезд з раёна, з Касцюковіч, «упаўнаважанага», які чамусьці адразу выклікаў у сельсавет «на размову» Масея. Знешне размова атрымалася бяскрыўднай. «Чуў я, — казаў «упаўнаважаны», — вы на апошнім курсе ўніверсітэта. Канчаеце, значыцца. Вельмі добра. Будзеце выкладаць? Расейскую ці беларускую літаратуру?..» І папытаўся: каго ён найбольш любіць з беларускіх пісьменнікаў — Гаруна, Дубоўку, Чорнага, Кляшторнага?» Гэта насцярожыла маладога паэта. Ведаючы, што ўсе яны былі арыштаваныя органамі НКВД, хлопец не даў сябе злавіць на кручок, ухіліўшыся ад прамога адказу.

Масей спачатку не прыдаў вялікага значэння той «размове». Але пра яе дазналася бацька, якога яна вельмі ўстрывожыла: «Сын мой, дык гэта ж ты на заметцы. Бачыш, ён кінуў уже сваё вока і на нашу хату. А для чаго? Можа, ты нешта сказаў — тут ці там, у Менску? Ці напісаў што дрэнае? Не можа ж быць, штоб так, з бухты-барахты. Кінуў бы ты сваю пісаніну — згубіць яна цябе»... І далей: «Можа б ты паехаў да цёткі ў Хабараўск? Можа б уцалеў і за што-небудзь учапіўся б там?»

Але сын пачаў заспакойваць бацьку: за ім жа няма аніякай віны. Толькі і ў самога закралася трывога. Яна выказалася ў вершы «Прадчуванне»:

*Больш у полі я не заначую,*
*кіну я зялёную бярлогу:*
*у аддалях цёмнай ноччу чую*
*сэрцам я асеннюю трывогу.*

Пра ўсё гэта вельмі падрабязна расказвае Масей Сяднёў на першых старонках рамана «І той дзень надышоў».

Сам пісьменнік назваўся ў сваім рамане Міколам. Але гэта яго маска, вельмі празрыстая, зрэшты, маска. Мусіць, адзявалася яна, каб больш праўдзіва расказаць у творы пра сябе. Ды паслядоўна ён і не хаваецца пад той маскай. Нават свае вершы, з якімі выступаў у друку, цытуе ў рамане як «Міколавы».

З надзеяй, што з ім нічога кепскага не будзе, Масей Сяднёў варочаецца ў Мінск, каб заканчваць вучобу і ўладкавацца дзе на працу па спецыяльнасці.

Гэтым канчаецца першая з трох частак рамана, якая вядзецца ад першай асобы — ад «я» паэта.

Другую частку рамана пісьменнік прысвяціў бацькам, якія асталіся ў Мокрым і вельмі перажываюць за арыштаванага энкавэдыстамі сына. За што яго арыштавалі і куды вывезлі, яны, як і чытачы, дакладна не ведаюць.

Пра ўсё гэта расказваецца ў рамане Масея Сяднёва «Раман Корзюк». Чытач нібы акунаецца ў ім у тую трывожную, проста напятую атмасферу, што панавала, з кожным днём згушчаючыся, у трыццатыя гады ў Мінску, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі, якую савецкія ўлады абвінавачвалі ў буржуазным нацыяналізме, у «нацдэмаўшчыне» і кідалі ў турэмныя засценкі, за калючыя драты канцлагераў або проста расстрэльвалі ў шматлікіх «курапатах». У эпіцэнтр гэтых падзей якраз і трапляе сам аўтар, які праходзіць усе кругі гулагаўскага пекла і толькі цудам застаецца жывым.

Зваротам Масея Сяднёва (пад іменем Мікола) дадому пачынаецца трэцяя, апошняя частка рамана «І той дзень надышоў».

Расказ пра гэты зварот не можа не крануць чытача. Вот ён, паэт-катаржнік, падышоў да сваёй вёскі. «Усё знаёмае, роднае хлынула ў маю душу, сціснула маё сэрца болем, жалем і трывогай. Я цяпер ужо дома, я ўжо тут, я зараз пераступлю свой парог!..» Але: «Як гэта я зайду ў хату, як я пакажуся!.. Баюся ўзяцца за клямку дзвярэй, пераступіць тую мяжу, да якой дайшоў. Стаю і не адважваюся адчыніць дзвярэй — як гэта так, адразу! Збіраюся з духам...» Не трэба казаць, якая гэта была радасць бацькам — сустрэць такога даўгачаканага сына!

Цікава, што па-свойму і не менш кранальна апісаў вяртанне са сталінскіх засценкаў Масея Сяднёва яго зямляк Іван Чыгрынаў у сваім рамане «Апраўданне крыві». Да гонару гэтага пісьменніка, ён яшчэ ў савецкія часы, часы панавання Галоўліта — гэтага цэнзурнага монстра — не пабаяўся ўзяць у героі свайго твора апальнага літаратара, «ворага народа» Масея Сяднёва пад яго ўласным імем — Масей. Ён зрабіў яго сынам аднаго з галоўных герояў «Плачу перапёлкі» і іншых раманаў «верамейкаўскага цыкла» — Дзяніса Зазыбы, былога старшыні калгаса, з-за якога і з гэтай пасады праз арыштаванага сына.

Вярнуўшыся ў час нямецкай акупацыі дадому, Масей Сяднёў апынуўся ў вельмі складанай сітуацыі. Над ім навіс дамоклаў меч. З аднаго боку небяспека зыходзіла ад немцаў, якія змушалі такіх маладых людзей ісці ў паліцыю, памагаць ва ўсім фашыстам, а з другога боку — ад партызан, якія хацелі забраць яго на службу да сябе. Але ні тым, ні другім ён служыць не збіраўся. Ён быў і супраць германскага фашызму, і супраць сталінскай тыраніі, «красу» якой добра зведаў на сабе. Так што ад адных і ад другіх давялося Масею Сяднёву хавацца.

З набліжэннем фронта «недабіты вораг народа» Масей Сяднёў зусім змушаны быў уцякаць на Захад, каб ізноў не апынуцца ў энкавэдысцкіх кіпцюрах. Якраз гэтым і заканчваецца раман «І той час надышоў».

Абодва раманы Масея Сяднёва былі напісаны ў 80-х гадах мінулага стагоддзя ў эміграцыі, дзе не трэба было асцерагацца нядрэмнага вока літаратурных жандараў.

Да раманаў жа былі ў яго вершы. Спачатку светлая бесклапотная лірыка маладога паэта, перад якім адкрываліся заманлівыя, азалочаныя сонцам далячыні:

*Пад дажджом мы стаялі. Маланак агні*
*палыхалі за дальнім бугром.*
*З невядомай крутой вышыні*
*грозна звальваўся гром...*

*І відаць было — травы, пялёсткі раслі,*
*замірала зямля ад гарачых уцех.*
*Пад дажджом мы стаялі. Мы рады былі,*
*што дажджы і што ўсё перад намі цвіце...*

І думаць не думаў малады паэт, што нават гэтая бяскрыўдная лірыка можа таіць у сабе нейкую небяспеку для аўтара. Але якраз праз яе, праз шчырыя вершы на роднай мове і апынуўся ён за турэмнымі кратамі. Спраўдзіліся словы Аркадзя Куляшова, які, пазнаёміўшыся яшчэ ў Мсціслаўскім педвучылішчы з паэтычнымі спробамі Масея Сяднёва, сказаў яму: «Ты захварэў на небяспечную хваробу, Масей». Апынуўшыся ў змрочных турэмных мурах, ён і сам гэта зразумеў:

*Мусіць, больш не маючы нічога,*
*маці мне мая дала жалейку.*
*Ды пачуўся голас духу злога:*
*— Згінеш ты, Масей, не за капейку...*

*Захапіўся песняй я сваёю,*
*падкаваў я рыфмай чарадзейку.*
*Толькі ж грымнула над галавою:*
*— Згінеш ты, Масей, не за капейку.*

*Я ў няволі. Маці мая, маці,*
*ну нашто ты мне дала жалейку?*
*Маёй песні болей не ўзвівацца —*
*Згінуў, згінуў я ні за капейку.*

Заканчэнне на стар. 7 »

# «Човен майго часу»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 і 6

Ды напоўніцу зведаўшы сталінскае пекла, паэт усё ж такі здолеў вырвацца на волю.

Што варта ў Масея Сяднёва самай вялікай павагі, дык гэта яго нязломная вернасць Беларусі, свайму народу, роднаму беларускаму слову. Нідзе — ні ў чэхіцкіх катоўнях, ні ў далёкай эміграцыі — ён ніколі не здраджваў беларускай мове, а, значыць, свайму народу. «…што тычыцца мовы, — казаў ён у пісьме да паэта Леаніда Пранчака, — то яна была для мяне не толькі сродкам, а нечым больш. Душой. Лекамі ў найцяжэйшыя часы. Я прыйшоў з ёй у гэты свет, нідзе з ёй не разлучаўся, яна была маёй духоўнай спадарожніцай. Мова і я — гэта адно. Без яе няма чалавека».

Не многа, не мала — цэлых паўвека Масей Сяднёў быў адарваны ад Радзімы. Ды ўсёроўна не кідаў пяра. Як і заўсёды, пісаў на роднай беларускай мове з надзеяй, што яго творы дойдуць калі-небудзь да Беларусі. Там, за мяжой, і друкаваў іх, выдаваў асобнымі кнігамі. Хоць дома, на Радзіме, яны і блізка не дапускаліся да чытача, беларускага чытача, якому і былі адрасаваны. Добрага паўвека яны былі ў Беларусі пад забаронай. Нават імя Масея Сяднёва нідзе не дазвалялася ўпамінаць. І мы, беларусы, не ведалі нават пра існаванне свайго выдатнага пісьменніка. І толькі ў 1990 годзе, калі Беларусь атрымала незалежнасць і пэўную самастойнасць, перад творамі Масея Сяднёва адчыніліся нарэшце ў нас дзверы. Як і перад самім аўтарам.

Атрымаўшы такую шчаслівую магчымасць, Масей Сяднёў адразу ж прыляцеў з чужыны, з далёкай Амерыкі на Радзіму, у сталіцу Беларусі. Прыляцеў і вельмі здзівіўся: у стольным Мінску, у якім у 20—30-я гады мінулага стагоддзя ўсюды гучала свая беларуская мова, цяпер панавала суцэльная «русчызна», мова суседняй, хоць і саюзнай краіны.

Вельмі балюча ўспрыняў гэта беларускі пісьменнік Масей Сяднёў. Ён не мог зразумець, як гэта дапусцілі самі беларусы. Як маглі адцурацца ад самага дарагога — прыроднай мовы сваёй зямлі, а калі добра падумаць — ад саміх сябе. Тым больш, што, як ён казаў, «беларуская мова насуперак сцвярджэнням некаторых "вучоных" — лінгвістычна самастойная мова, і ў ёй дастаткова сродкаў для выяўлення псіхікі нашай нацыі. Толькі наша мова, не якая іншая — ні руская, ні польская — блізкая нашаму характару, толькі ёй — мяккай і мілагучнай — адгукаецца наша душа».

Мне добра помніцца прыезд Масея Сяднёва на Радзіму пасля паўвекавой гвалтоўнай адлучнасці ад яе. У Доме літаратара, у кабінеце старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі мы з радасцю віталі, можна сказаць, вяртанца з таго свету. За доўгім сталом для пасяджэнняў вольна, з радаснай узбуджанасцю гаманілі з ім, распытвалі пра яго незвычайную адысею. Масей Сяднёў, невысокага росту, з трохі прыплюснутым тварам, коратка адказваў на пытанні калег-пісьменнікаў, якіх ведаў дагэтуль толькі па кнігах (яны ж даходзілі і за акіян) і ўпершыню бачыў іх наяве. Раз за разам круціў галавой, водзячы вачыма з аднаго пісьменніка на другога, шчаслівы да такой, зусім нядаўна немагчымай, сустрэчы.

Гэта быў першы, але не апошні прыезд на Радзіму Масея Сяднёва пасля доўгай разлукі. Прылятаў ён і яшчэ. І, здаецца, не адзін раз.

У тыя часы я працаваў у часопісе «Полымя». І вот аднаго разу, пастукаўшыся, нізкаваты Масей Сяднёў асцярожна, як бы з нейкай нерашучасцю адчыніў дзверы ў рэдакцыю. Я падняўся з-за свайго стала і ступіў яму насустрач. Як ужо дагэтуль знаёмыя, мы абняліся, я запрасіў яго сесці. Ён прынёс мне як рэдактару паэзіі і падаў акуратна аддрукаваныя на паперы свае паэтычныя творы — для апублікавання. Вельмі хораша мы тады з ім пагутарылі. На жаль, не доўга, бо ён спяшаўся зноў ляцець у Амерыку, у свой Глен-Коў.



Фота vintage.com

Прынесеныя мне творы я з прыемнасцю падрыхтаваў да друку, выбраўшы з іх, як звычайна, тыя, што адпавядалі нашым патрабаванням. І калі прыйшла іх карэктура, праз Вольгу Іпатаву, якая якраз адлятала ў Злучаныя Штаты, перадаў яе аўтару — каб яго парадаваць.

Праўда, я не мог тады прапанаваць для друку толькі яго паэму «Мікола Бугроў». Твор пра вельмі балючую для аўтара тэму — пра зверскае забойства яго маці партызанам-камуністам Міколам Бугровым. Дарэчы, адным з герояў рамана «І той дзень надышоў». Не падпісаў паэму да публікацыі таму, што палічыў яе слабаватай з мастацкага боку.

Масей Сяднёў, мусіць, затаіў на мяне за гэта крыўду, бо ў сваім дзённіку, які я знайшоў у архіве, ён негатыўна выказаўся на мой адрас, чамусьці назваўшы мяне «паланізатарам» (за тое, што я перакладаў на нашу мову польскамоўныя творы паэтаў Беларусі XIX стагоддзя Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, Юльяна Урсына Нямцэвіча, Яна Баршчэўскага, Антонія Гарэцкага, Уладзіслава Сыракомлі і інш.?)

Даўно марыў я выдаць аднатомнік выбраных твораў Масея Сяднёва ў серыі «Беларускі кнігазбор» — каб пазнаёміць Беларусь з яе верным сынам і выдатным пісьменнікам. Але доўга не знаходзілася такой магчымасці. Знайшлася яна, гэтая магчымасць, толькі ў 2014 годзе.

Рыхтаваў я том разам з Лідзіяй Савік, якая напісала да яго і ўступны артыкул. Апрача апублікаваных твораў Масея Сяднёва мы ўключылі ў кнігу і тыя, што засталіся ў рукапісах. На шчасце, пісьменнік усе свае, пэўне ж, важнейшыя матэрыялы паспеў перадаць пры жыцці ў Беларускі дзяржаўны музей-архіў літаратуры і мастацтва, дзе мне давялося доўга пасядзець, вывуджваючы найбольш значнае з ягонай літаратурнай спадчыны.

Думаю, вельмі змястоўны, даволі прадстаўнічы атрымаўся аднатомнік Масея Сяднёва ў нашай залатой серыі.

Першы раздзел яго склалі вершы. «Вся моя биография — в стихах» — прыкладна так казаў некалі Сяргей Ясенін. З поўным правам мог бы сказаць так пра свае вершы і Масей Сяднёў. Усе этапы яго жыцця адбіліся ў радках паэзіі. Пра гэта кажуць і пазнакі пад вершамі: «Мокрае» (родная вёска), «Мінск, турма», «Новасібірск, канцлагер», «Марыінск, лагер», «Калыма», зноў «Мінск, турма», «Беласток», «Берлін», «Баварыя», «Нью-Ёрк», «Глен-Коў».

Другі раздзел — «Раманы». Мне адразу хацелася ўключыць сюды абодва — і «Рамана Корзюка», і «І той дзень надышоў»: у іх жа адбіліся ці не самыя трагічныя гады нашай гісторыі, гады нечуваных сталінскіх рэпрэсій. Але тады б мы не змаглі змясціць у кнізе з яе абмежаваным аб'ёмам іншыя, не менш цікавыя матэрыялы. Таму першы з раманаў давялося даць у скароце. Чаму першы? Таму што там было што апусціць. Самае важнае, самае значнае ў «Рамане Корзюку» — гэта паказ у ім вельмі напружанай, трывожнай атмасферы ў Мінску трыццатых гадоў, калі начамі па вуліцах лёталі «чоныя вораны», хапаючы «буржуазных нацыяналістаў» і «нацдэмаў». Аўтару здалося, што гэтага мала для чытэльнасці рамана, і ён дзеля «інтрыгі» прыдумаў розныя небяспечныя пераходы сваіх герояў цераз мяжу з Польшчай, дзе іх ловяць польскія паліцыянты. Але гэтыя пераходы былі шыты белымі ніткамі, і чытач не мог у іх паверыць, што і зніжала каштоўнасць твора. Гэта з часам зразумеў і сам аўтар. У пісьме да Янкі Брыля ад 28 снежня 1990 года ён прызнаваўся, што дарэмна белетрызаваў так свой твор. «…гэтая "белетрыстыка" прычынілася і да пэўных выдаткаў, на якую Вы звярнулі ўвагу, і слушна: напрыклад, на тыя ж «хады-пераходы» Рамана Корзюка ў Польшчу і назад. Слушна — у іх, як вы пішаце, "не надта верыцца". А рабіў я гэта ўсё дзеля той жа зманлівай белетрыстыкі, дзеля фабулы, завязкі, дзеля так званага вострага сюжэта (якім, дарэчы, я не валодаю). Фабула, сюжэт той стрымлівалі мяне і ад "шчадрэйшай аўтабіяграфічнасці", якой бы Вы хацелі, каб была ў творы. І слушна… А я ж хацеў менавіта дзеяння, руху, белетрыстыкі. Вось яна і падвяла мяне… раман атрымаўся аморфным, расцягнутым. Бярэ ён за жывое (калі бярэ наогул), можа, толькі сваёй фактурай, паасобнымі, больш-менш удалымі раздзеламі, сваёй "гістарычнасцю"».

Таму мы — на сваю рызыку — і апусцілі тыя прыдуманыя аўтарам для інтрыгі «хады-пераходы» герояў у Польшчу, усю наносную «белетрыстыку», а пакінулі раздзелы, дзе аўтар расказвае пра сябе і пра свой час. Давялося тут адпаведна змяніць і нумарацыю раздзелаў.

Думаю, праз гэты скарот раман і пазбавіўся той «аморфнасці» і «расцягнутасці», пра што шкадаваў сам аўтар. У выніку чытач змог цяпер непасрэдна сачыць за рэальнымі падзеямі таго трагічнага часу. Шкадую толькі, што ў каментарыі мы з Лідзіяй Савік не растлумачылі чытачу прычыны скароту рамана. І дарэмна мы зрабілі ў пачатку рамана прыпіску пра яго скарачэнне, збіўшы гэтым самым чытача з панталыку. Дастаткова было б усё растлумачыць у каментарах. А найбольш цікаўных чытачоў адаслаць да публікацыі рамана ў часопісе «Полымя» ( 1995, нумары 2—4), дзе ён даецца цалкам, без скарачэнняў.

Што ж да другога рамана «І той дзень надышоў», то яго мы змясцілі ў томе цалкам, без аніякіх купюр. Лічу гэты твор — адным з самых выдатных дасягненняў нашай літаратуры. Я паставіў бы яго ў адзін рад з такімі буйнымі творамі, як «На ростанях» Якуба Коласа, як раманы Кузьмы Чорнага і «Людзі на балоце» Івана Мележа.

Вельмі добра, што аўтар не выдумляў у ім нейкага цікавага сюжэта, інтрыгі. А проста расказваў пра сябе, пра свае «блуканні па пакутах». А гэта для чытача — самае цікавае.

Ці не галоўная сюжэтная лінія гэтага рамана — узнёслае і трагічнае каханне самога Масея Сяднёва (будзем называць рэчы сваімі імёнамі) да яго вясковай суседкі Дусі, якой дамагаецца і камсамольскі актывіст, а потым партызан Мікола Бугроў, супрацоўнік Масея, забойца ягонай маці.

Дуся — адзін з самых прывабных вобразаў рамана. За яе — найбольшыя перажыванні ў чытача. Яшчэ студэнтам пакахаўшы маладзенькую пастушку гусей Дусю, Масей прысвяціў ёй свае першыя вершы («Пастушка», «Красуня»). З новай сілай разгарэлася ў яго каханне да «пастушкі», калі ён вярнуўся пасля пяці гадоў катаргі дамоў. У вельмі неспрыяльны для кахання час. Закаханыя пажаніліся. У іх нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Васільком. Ды і яе, і сына Масею давялося пакінуць, калі ўцякаў ад сталіністаў на Захад, у эміграцыю.

З сабой забраў толькі вялікі і нязбытны сум па іх. Каханне да простай сялянкі не згасла ў сэрцы паэта да канца яго дзён. Туга па ёй чуецца і ў напісаным праз сорак гадоў вершы «Лёрэляй»:

*Ёсць месца такое ў лесе,*
*з ім можа зраўняцца рай.*
*Там, на Палессі,*
*жыве мая Лёрэляй…*

Знайшоў я ў архіве і цікавую згадку Масея Сяднёва пра сваё каханне — «Дуся», напісаную ў 1991 годзе. Каханне пасярод вайны. «Я хаваўся ад партызанаў, — расказваў ён, — не хацеў, каб яны мяне сілком забралі ў лес, дый баяўся: маглі знішчыць. Начаваў усюды: у полі, на агародах, у лесе, на могілках. Зімою — у неастылых яшчэ пасля мыцця лазнях, ці ў Дусінай радні, або ў знаёмых, абы толькі не трапіць у рукі забойцаў. У сваёй хаце не мог: прыйдуць — забяруць. Дуся была ўсюды са мною, ахвочая аддавацца сваёй няспынннай жарсці». Калі ў 1942 годзе паявіўся ў іх сынок Васілёк, не было канца радасці маладым бацькам…

«Праз сорак сем год я наведаў Бацькаўшчыну, у тым ліку — Касцюковічы, — заканчваў ён сваю згадку. — Сустрэўся з сястрой Марфай і… з Васілём, маім сынам, з саракавасьмігадовым мужчынам, бясконца радым сустрэць, пабачыць свайго бацьку, якога яму гэтак не хапала. У гутарцы са мной сын казаў, што маці, не ведаючы, дзе я і што са мною, хадзіла да цыганкі варажыць і тая прываражыла ёй, што я не загінуў, жывы. На спатканне са мною ў Касцюковічы не пусціў ейны муж. Сын падараваў мне ейную з мужам фатаграфію — строгая ў паглядзе, але ўсё яшчэ прыгожая. Сын казаў, што я магу напісаць ёй. Даў ейны адрас. Але я не ведаю, ці напішу».

Кім жа ён стаў, Васіль Сяднёў (пэўне ж, носіць бацькава прозвішча), якая яго доля? Як бы хацелася ведаць пра гэта. Хочацца думаць, што ён знаёмы з бацькавай творчасцю, чытае яго кнігі. І што выдадзены намі ў залатой серыі аднатомнік Масея Сяднёва мае ў сваіх руках. Мае і знаёміць з ім сваіх дзяцей і ўнукаў. Чаму б нашым газетам ці часопісам не зацікавіцца імі?

Калі рыхтаваўся кнігазбораўскі том Масея Сяднёва, мы, шукаючы матэрыялы пісьменніка, не змаглі звязацца з яго дзецьмі і ад другой жонкі, што нарадзіліся і жывуць у далёкай Амерыцы. Будзе вельмі крыўдна, калі яны не ўбачаць «выніковай» кнігі свайго бацькі. І няўжо назаўсёды стануць яны, Сяднёвы, чужакамі для Беларусі, знакамітым пісьменнікам якой і да канца адданым патрыётам быў іх бацька?

***2015***

# Жыццё на скрыжаванні



Мечыслаў КУРЫЛОВІЧ

***

*Дні без сонейка блукалі —*
*на святло прыўшоў акцыз,*
*з раскі нёманскай каралі*
*вецер выставіў на прыз.*

*Пасінелы колер лісця,*
*бы пад вокам ліхтары, —*
*лістапад шукае выйсця,*
*ціха злазячы з гары.*

*Шэрасць дня — размыты здымак,*
*дождж стварае з кропель трук,*
*і са сплінам паядынак —*
*твой пяшчотны дотык рук.*

## Лебедзь

*Ляжыць у кропельках крыві.*
*Крыло наскрозь прашыта шротам...*
*З-за хмаркі сонца ўздоўж раллі*
*пільнуе час замглёным вокам.*

*Нясу дахаты і шапчу:*
*«Прабач, прабач ты нам за зверства!»*
*І першы раз, як урачу,*
*гаворыць згодай птахі сэрца.*

*Душу вярэдзіць часу дым,*
*дзе праўда тоіцца пад ботам,*
*і гладжу беднага пры тым*
*бацькоўскай наскаю турботай.*

*Нясу. І ўсё яму шапчу:*
*«Як добра, добра, што вясною*
*на злосць зімоваму мячу*
*сустрэўся сёння ты са мною».*

## Фантасмагорыя сну

*Цвікі малатку падстаўляюць*
*ілбы —*
*шчаслівую прышласць*
*нагадваюць прозе,*
*каб покуць прыпомніў*
*нябожчык былы*
*з зараслае сцежкі*
*на Боскім парозе.*

*Нявечныя людзі спяшаюцца жыць*
*у храме з гарачых, як гром,*
*успамінаў,*
*дзе вецер якоча,*
*з гарэлішч бяжыць,*
*каб лёс нецярпення*
*не здейсніўся дыбам.*

*Акрайчык спагады кіўнуў варажбе*
*і лічыць зярняткі з імклівых сузор'яў*
*апошняе веры, якой не стае*
*паправіць зямное ад Бога здароўе.*

***

*Пад коптур плодзіцца жыццё,*
*згубіўшы сэнс для слова баста!*
*Але больш важна пачуццё:*
*што для тубыльцаў скажа трасца?*

*Цнатлівай кропляй пстрыкнуў час,*
*бы атмасферай чэснай думкі,*
*якую пром мы напаказ,*
*скаваўшы стрыжань яе мулкі,*

*бы ў мудрых прашчураў дасье:*
*«Чужая золь заўжды нямая,*
*бо там глупота рэй вядзе,*
*а ў людзей сваёй хапае».*

*Адно, што ведаюць званы:*
*Жыццё паміж... на скрыжаванні...*
*Крывавы след яе вайны,*
*у Лету вечнасці не кане,*

*і што не раз праедзем паўз*
*смяротных смерчаў у паветры,*
*пасля чаго не будзе нас, —*
*адкрыўшы рот, важак дапетрыць.*

***

*У неразвоне шматгалосым*
*надзеі час, прароцтваў сны:*
*штодня шэдэўры ткуць на кроснах*
*з калекцый зорнае вясны.*

*Пікантнасць цешыцца канцоўкай:*
*да скону цымус — не пампэ,*
*і толькі ноч ківае слоўцам —*
*у дапамогу забярэ.*

***

*За што разумных чорт не любіць?*
*Што бачаць свет з дабаўкай солі?*
*Што вострым клёкам дурняў судзяць,*
*а языком — яшчэ тым болей?*

*Што Боскай марай сэрца грэюць*
*і стыль чужы прыняць не хочуць,*
*а тым, што з подласці шалеюць,*
*яны адкрыта ў твар рагочуць?*

*У іх за людам сэнс не крочыць —*
*у іх свая заўжды дарога,*
*дзе сцежка матчына не збочыць*
*з надзеяй светлаю ад Бога.*

*А як прысуд ім смерць абудзіць,*
*то прыклад іншых іх натхняе:*
*дзе існасць пеклам чэрці судзяць —*
*народ пасля абагаўляе.*

## Каляндарныя вешкі

***(Трыпціх)***

**1**

*Ціш адмерана вярстой.*
*Сон пад белым пледам.*
*Сцежку снежную з пятлёй*
*зайчык піша следам.*

*Млечным шляхам вядуць рэй*
*вэлюмныя ёлкі,*
*каб душу сагрэць хутчэй*
*вокам першай зоркі,*

*дзе згубілі пралліі сон,*
*дзе ўсю ноч карпелі,*
*як ласіхам наўздагон*
*ткалі след завеі.*

*Вунь і месячык-мядзяк*
*стаў прыкметай роднай:*
*чаркай плодную рыбак*
*чокнуўся з Гароднай.*

**2**

*Ліловым ценем плыні Нёмна*
*нырцуюць аж да донца.*
*Каложы крыж, як сімвал Гродна,*
*вітае з хмараў сонца.*

*На Ласясянцы рой усплёскаў,*
*як быццам клёкат бусла,*
*кусліваць чырвенькае мошкі*
*здае экзамен вусна.*

*Спрасонку плачуць вербалозы,*
*Паўсюль — паглянь, як міла...*
*І хмарка косы ад бярозы*
*на плечы палажыла.*

**3**

*Канюшыне кучаравай*
*распіярыў грыву вецер,*
*і кляновы ліст да па́ры*
*канюшынным піруэтам,*



Фота pxhere.com

*дый характар здзейсніў гонкі:*
*бы душу, трасе арэшнік*
*і, як гузікі, рамонкі,*
*што гадалі дзеўкам грэшна.*

*Кілім жоўтае лістоты*
*упрыгожвае аблічча —*
*стыль дызайнерскай работы,*
*і буслоў у вырай кліча.*

*Роля восені зямная,*
*калі глянеш крыху збоку:*
*пацяруха ліст хавае*
*з трэцяй стадыяй апёкаў.*

## Сцяжынкай успамінаў

***Эцюды***

***

*У стылі полькі танчыць вецер,*
*шарпак усмешкаю іскрыцца,*
*і паляцелі долу свечкі*
*з яловых лапак, спячых ніцма,*

*багаццем поўнячы засекі*
*зіме з бурштынавага рога,*
*каб свет запомніла навекі —*
*яшчэ з ляснога каталога,*

*дзе я катаўся колісь з горкі,*
*і першы раз перад Табою*
*ляцеў, як быццам у фіёрды*
*спартыўна-мёртваю пятлёю.*

***

*Струменяцца сонейка ліўні.*
*Смалісты марозны настрой*
*пухнатаю шапкай яліны*
*са снежнай фліртуе гарой,*

*а ўнізе малюнак краёвы:*
*калыска для беленькіх руж,*
*і ў думках блукаюць тры словы,*
*тры словы з агранкай пад ключ,*

*і дзён больш не трэба цвярозых,*
*што цягнуць праблем поўны воз,*
*а толькі, бы сеўшы на дозу,*
*прылашчыць тваю прыгажосць.*

***

*Неўздагад і рэшка выпала ўдачай*
*з сотні нешчаслівых толечкі адной:*
*ка́ня з Прынямоння над затокай плача,*
*а з вярбінкі коцік муркае вясной;*

*ластаўкі сінечы — мабыць, на пагоду, —*
*рысамі шкаляраць з раніцы стрыжы,*
*і на ліпе з лыжкай сонечнага мёду*
*чмель у гроне пчолак, зноў жа, не чужы;*

*парадыйны пошчак, мусіць, салаўіны,*
*хмельны водар сонца, макіяж сасны,*
*гронкі з бірузовых ягадак каліны*
*і твае тры словы, словы без цаны.*

*Конікам пабудка дзінькае званочкам,*
*на заняткі кліча, пэўна, сенажаць,*
*а з буслянкі буслік, роджаны ў сарочцы,*
*нам міргае вокам: «Гэй, пара лятаць!»*

***

*Спявала ночанька салоўкай,*
*гудзела ў шале з вышыні,*
*табу закрэслена алоўкам*
*ад непатрэбнай немаці,*

*і свет паплыў у мройным цудзе*
*на чоўне радасці зямной.*
*І мёдам пахлі твае грудзі,*
*і губы — сонечнай вясной.*

***

*Пляце куст бэзу за акном*
*з вячэрніх ценяў павуціну,*
*палоску сінію крылом*
*на ўзлёце стрыж для нас пакінуў.*

*Сады накрыла неба столь,*
*шапоча шэрая гадзіна;*
*былі расстанні, стратаў боль...*
*Была любоў — жыцця вяршыня.*

***

*Для ночкі час прыдбаў сустрэчу —*
*паслухай ціш і не грашы.*
*Люблю да слёз яе я Веча*
*пад водгук роднае душы.*

*Абдымкі ціхай, цёплай мары...*
*Згрызоты долу кануць ніцма...*
*А для душы, спазнаўшы чары,*
*рай у чарговы раз прысніцца.*

*Душа і цела зноўку разам*
*у падсвядомасці.*
*Але,*
*ёсць прадчуванне, што пад прасам*
*мае ўсе думкі аб Табе.*

***

*Магнітнай бураю наўздзіў*
*варушыць памяць сонца, —*
*як за Табою я хадзіў,*
*каб завязаць знаёмства.*

*Парог прагнуўся без віны,*
*а галасісты гоман*
*дзявочым смехам з даўніны*
*панёс на хвалях Нёман,*

*дзе повязь наша, як даўгі,*
*што векселем спавіты,*
*як скварным летам дарагі*
*глыточак аквавіты.*

*Надзеі боль і ўзлёт дарог —*
*стамлёнасці падранак,*
*малітвай скрушнаю пралёг*
*у лістападны ранак.*

*Прысеў на скроні голуб дня,*
*вясёлай цешыць мінай:*
*жыццё вясёлкаю без дна*
*квітнее над радзінай.*

# Небяспечныя сувязі: Алена ВАСІЛЕВІЧ і АСТРОЎСКІЯ

Анатоль СІДАРЭВІЧ

***

Быў малады, а таму, мякка сказаўшы, не зусім разумны. Гэта ж колькі можна было ўведаць! Але штосьці-колечы асела ў памяці і час ад часу падавала сігналы, нагадвала пра сябе.

Казіміра Астроўскага паўстынцы (жыхары вёскі Паўстынь Слуцкага раёна) называлі панам. І складвалася такое ўражанне, што ён быў тамтэйшым землеўладальнікам. Пан Казімір і памёр у Паўстыні, і пахаваны на вясковых могілках. Тую магілу мне рупіла і рупіць наведаць зноў. Сярод іншых магіл яна вылучалася нізкай металёвай (пэўна, жалезнай ці сталёвай) агародкай...

Пан Казімір знакаміты хоць бы тым, што ягоным сынам быў Радаслаў Астроўскі, педагог, заснавальнік першай беларускай гімназіі (у 1917 годзе ў Слуцку), дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, аўтар, здаецца, першага беларускага навучальнага дапаможніка па астраноміі, палітычны дзеяч, наместнік Браніслава Тарашкевіча ў Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамадзе, а ў вайну — прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады.

Нейк падумаўшы, што трэба ўсё ж з'ездзіць у Паўстынь, я згадаў адну размову з нашай пісьменніцай Аленай Сямёнаўнай Васілевіч. Яна між іншым сказала, што нехта з сям'і Астроўскіх быў яе хросным бацькам. Так мне запомнілася. Гэта, згадзіцеся, цікава... Ведама, у тым, што нехта з Астроўскіх хрысціў малую Алену Васілевіч, нічога дзіўнага няма, бо Алена Сямёнаўна па маці шляхцянка і жыла ў засценку Даманшчына (другая назва — Ліпнікі), што за тры вярсты ад Паўстыні. Калі адрозненне паміж шляхтай і мужыкамі адчувалася яшчэ і ў 1980-х, дык што казаць пра пачатак 1920-х?

Мне хацелася высветліць, хто з Астроўскіх прамаўляў у царкве за маленькую дзяўчынку словы Сімвалу веры. Была ў гэтым факце — факце хросту Алены Васілевіч чалавекам з роду Астроўскіх — і інтрыга. Я нават падумаў быў: Алене Васілевіч пашанцавала, што яна нарадзілася ў 1922-м, што чарговая хваля бальшавіцкага тэрору ў БССР пракацілася, калі ёй было 15—16 гадоў. Вядома, узрост быў ужо расстрэльны, і за небяспечныя сувязі, сувязі з «класавымі ворагамі», дзяўчына таксама магла трапіць пад каток, але непаўналетніх тады арыштоўвалі, як правіла, услед за бацькамі. І ўсё ж сувязі, паўтаруся, былі небяспечныя, і апавядаць у сталінскім, нават у хрушчоўскім СССР пра тое, што ты маеш нейкае дачыненне да радні «таго самага» Астроўскага, было б вельмі і вельмі неабачліва.

З думкаю пра паездку ў Паўстынь я пайшоў да Алены Сямёнаўны. Вельмі рупіла мне даведацца, хто ж быў хросным у яе, дзе і як ён жыў.

## Бог смяецца, або Сёе-тое з радаводаў

Не буду казаць пра атмасферу гутаркі з Аленай Сямёнаўнай і яе блізкімі. Сустрэліся людзі, якія ведаюць тую старану і людзей тае стараны. Не цяперашніх людзей, а тых, што былі і што дажываюць веку. Занатаваў я падчас тае сустрэчы, што насельніцтва Даманшчыны-Ліпнікоў складалі, па-тамтэйшаму кажучы, Нярон́скія, Бараны́ і Балваны́ і Гурыны́. Гэтак «рыфмаваліся» прозвішчы Бараноўскіх, Балвановічаў і Гурыновічаў. Былі і людзі з падвойнымі прозвішчамі: Ждановіч-Гурыновіч ды Лебедзеў-Няронскі.



Алена Сямёнаўна ВАСІЛЕВІЧ



Радаслаў Казіміравіч АСТРОЎСКІ. 1913 г.

З тае гутаркі даведаўся я, што ў 1920-х у Паўстыні жылі дзве дачкі пана Казіміра Іванавіча і пані Эміліі Ільінічны Астроўскіх: Юлія Казіміраўна і Марыя Казіміраўна. Юлія Казіміраўна выйшла замуж за Пятра Фоцієвіча Бараноўскага, якога акалічны люд зваў Петрусём Фотавым, а Марыя Казіміраўна стала жонкаю былога чырвонага партызана (гэта значыць, партызана, які ў 1919—1920 гадах змагаўся з польскімі акупантамі). Было ў таго партызана арыстакратычнае прозвішча — Сапега. Калі пра Пятра Бараноўскага можна сказаць, што ён быў тамтэйшы шляхціч, дык пра Сапегу такой яснасці няма: невядома, адкуль ён з'явіўся ў Паўстыні.

Меркаваў я пасля гутаркі з Аленай Сямёнаўнай і яе блізкімі падацца ў Паўстынь, паглядзець на магілку пана Казіміра і нават сфатаграфаваць яе (ведама, калі яна засталася). Але, як той казаў, чалавек плануе, а Бог смяецца, то ў «мысли и дела он знает наперёд». Перш адна, а потым другая хвароба, неабходнасць захоўваць дыету і рэжым, глытаць 12 таблетак на суткі не далі здзейсніцца маймy плану. А ехаць позняй восенню ці зімой не выпадае: чамусьці мала хто вітае здымкі, зробленыя аб такой пары. Не маючы магчымасці вырвацца з Менску ў пару зеляніны ці залатой восені, я здолеў высветліць, што пан Казімір Астроўскі ў сціслым значэнні гэтага слова панам не быў. Мяркуючы па тым, што ён жыў то ў Слуцкім, то ў Пружанскім, то зноў у Слуцкім паветах (пры гэтым не ў адной і той самай мясцовасці Случчыны), я зрабіў выснову, што пан Астроўскі быў арандатарам. Гэтую маю выснову пацвярджаюць дзве ёмістыя кнігі Дзмітрыя Дразда пра землеўладальнікаў Менскай губерні. Не значыцца пан Казімір Астроўскі сярод іх, і паўстынскія землі яму не належалі. А ўзяўшы пад увагу, што пан Астроўскі лічыўся мешчанінам горада Нясвіжа, я зрабіў выснову, што быў ён з «разабранай» шляхты: з тае шляхты, якая не змагла дакументальна пацвердзіць сваё шляхецтва і была пераведзена або ў заходнія аднадворцы, або ў казённыя мужыкі, або ў мяшчане.

Падобны лёс напаткаў і продкаў Яна Луцэвіча — Янкі Купалы. Пераведзеныя ў мяшчане, Луцэвічы таксама жылі на арэндах, маючы субарандатараў і парабкаў. Ці меў субарандатараў пан Казімір Астроўскі, пакуль што пэўнасці няма.

## Як яны жылі

Панна Юлія Астроўская, стаўшы пані Бараноўскай, разам са сваім Петрусём Фоціевічам жыла на хутары Мілешава, што быў непадалёк ад засценка Кублішча (Кублішча — гэта па дарозе з Паўстыні ў Рабак; глядзіце на сучасных мапах, калі ад засценка нешта яшчэ засталося.)

Былі 1920-я гады. Новая эканамічная палітыка. Заклік Мікалая Бухарына «Абагачайцеся!». І заклік Аляксандра Чарвякова «Багацей, селянін, бо чым багацейшы ты, тым багацейшая наша краіна». Гэты час застаўся ў памяці слуцкіх сялян і шляхцічаў-земляробаў як час, калі яны былі гаспадарамі. У Мілешаве Бараноўскія пабудавалі дом з высокім ганкам. У доме былі, што не магло не кінуцца ў вочы малой Алене Васілевіч, вялікі пакой і фарбаваная падлога, а абедзенны стол быў пакрыты блакітнай цыратай.

Мелі Бараноўскія дзве каровы, авечак і кабылу з жарабём. Само сабой, у свінушніку рохкалі свінні. Зноў жа, Алене Васілевіч запомнілася, што елі Бараноўскія ды іх госці кожны са сваёй талеркі, а не з агульнай міскі, як тое было ў звычаі ў мужыкоў і ў шарачковай шляхты. А прасяную кашу пасыпáлі цукрам, што таксама не магло не ўразіць.

А наведвала малая Алена дом Бараноўскіх таму, што Пётр Фоцієвіч Бараноўскі, швагер Радаслава Астроўскага, быў ейным хросным бацькам.

Што ж тычыцца Марыі Казіміраўны Астроўскай, цяпер ужо Сапегі, дык жыла яна ў Паўстыні, у самым канцы вёскі, у бок Барэцкага лесу. (Барэцкі лес таму, бо рос ён каля засценка Боркі.) У доме Сапегаў Алене Васілевіч запомнілася зала з авальным сталом, вакол якога стаялі крэслы. А яшчэ ў зале было піяніна. І быў у доме дзіцячы пакой з дзіцячымі ложкамі і са сталом для лялек і цацак. Па тым часе ды для вёскі — раскоша. А яшчэ што не магло не ўразіць, дык тое, што сёстры Астроўскія, калі выбіраліся ў Слуцак, мелі на галовах не хусткі, а капелюшы...

## Іх лёсы

У пані Юліі і Пятра Бараноўскіх быў сын Жэня 1924 года нараджэння. І яшчэ дзве дзяўчынкі — дачушкі раскулачанай сястры Пятра Фоцієвіча. Не маглі бальшавікі не раскулачыць і Бараноўскіх. У рэшце рэшт яны трапілі ў Саратаў — горад, куды саслалі нямала беларусаў (дастаткова згадаць хоць бы Язэпа Дылу і Вацлава Ластоўскага). Юлія Казіміраўна выкладала ў Саратаве нямецкую мову (з гэтага мы робім выснову, што яна скончыла жаночую гімназію), а Пётр Фоцієвіч працаваў рахункаводам. Сын, Жэня, паступіў у Саратаўскі ўніверсітэт, але вучобу перапыніла вайна. Аднаго дня бацькі атрымалі «пахаронку» на свайго сына, адпелі яго ў царкве, памянулі. І якая ж была іх радасць, калі стала вядома, што ён жывы! Калі сын вярнуўся дадому, у яго, хто пабываў у нямецкім палоне, былі праблемы з аднаўленнем ва ўніверсітэце. І ўсё ж дыплом ён атрымаў і працягваў вучобу ў аспірантуры пры Іванаўскім педагагічным інстытуце, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Як спецыяліст у галіне геаметрыі, загадваў адпаведнай кафедрай і быў прафесарам Іванаўскага ўніверсітэта. Каля яго, перабраўшыся з Саратава ў Іванава, дажывалі свайго веку Юлія і Пётр Бараноўскія. Па сабе прафесар Бараноўскі пакінуў сына і дачку.

Цяпер я думаю: добра, што Юлія Астроўская выйшла замуж, добра, што памяняла прозвішча, і нават добра тое, што яе саслалі ў Расію. Хто ведае, як склаўся б яе лёс у БССР, дзе ейны брат, учарашні камуніст, у 1929 годзе быў залічаны ў нацыянал-фашысты?

У пані Марыі Астроўскай, якая стала Марыяй Сапега, была дачка Віця, Вікторыя. Як і Бараноўскія, Сапегі таксама трапілі пад раскулачванне. Вядома, што па вайне яны жылі ў Алушце (Крым).

Нельга тут не згадаць Мікалая і Фядору Ждановічаў-Гурыновічаў. Мікалай Гурыновіч — гэта родны дзядзька Алены Васілевіч, брат ейнай маці, а Фядора — сястра Пятра Фоцієвіча Бараноўскага. Іх фотаздымак з 1911 года можна ўбачыць у кнігазбораўскім выданні выбраных твораў пісьменніцы.

Былі Гурыновічы гаспадарамі сярэдняй заможнасці, кажучы бальшавіцкай мовай — моцнымі серадня́камі. Мелі сваю ваўначоску і дагледжаны сад. Гэта яны прытулілі Алену Васілевіч, калі памерла яе маці. Гэта пра Мікалая Гурыновіча напісана ў аповесці «Расці, Ганька»: «Цяпер Ганька жыве ў дзядзькі»...

Калі навісла пагроза раскулачвання, Мікалай Гурыновіч паспеў з'ехаць у Днепрапятроўск (цяпер горад Дняпро) на будаўніцтва мастоў. Ягоную жонку, Марфу, бальшавікі выгналі з хаты і неўзабаве кінулі ў слуцкую турму, а потым этапавалі ў Менск і, паводле афіцыйных дакументаў КДБ, расстралялі ў Курапатах.

## І пытанні

Той, хто чытаў кнігу «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах», мог не адзін раз сустрэць на яе старонках прозвішча Бараноўскі. Складальнікі і каментатары высветлілі, што Бараноўскі Алесь і Бараноўскі Андрэй паходзілі з Машчыцаў Слуцкага павета. Першага яны запісалі ў мужыкі, а другога — у шляхту. Можна меркаваць, што машчыцкія Бараноўскія былі сваякамі Бараноўскіх з Даманшчыны. На гэта паказвае хоць бы той факт, што на пачатку 1920-х выпускнік Віленскага настаўніцкага інстытута Алесь Бараноўскі працаваў у Ліпніках, вёў там культурна-асветніцкі гурток «Вясковая зорка». Як «ворага народа», бальшавікі расстралялі яго ў 1938-м.

Ёсць і пытанні: хто такія, адкуль паходзілі Адам Бараноўскі, К. Бараноўскі і Фёдар Бараноўскі? А яшчэ адно пытанне такое. Мікалай Улашчык ва ўспамінах даволі часта згадваў свайго сябра, лекара Юзіка Бараноўскага, але не даў пра яго больш-менш вычарпальных біяграфічных звестак. Адкуль, з якой мясцовасці паходзіў гэты пакутнік за беларушчыну? На гэтыя пытанні, хочацца думаць, адкажуць гісторыкі наступнай генерацыі.

***

У гэтым тэксце «па-за кадрам» засталася сюжэт аб прыездзе ў Даманшчыну (Ліпнікі) на пачатку 1920-х гадоў Якуба Коласа. Але пра гэта я раскажу ў больш падрабязнай публікацыі пра пэўныя моманты ў жыцці народнага паэта.

Спадзяюся, гэты нарыс дае нейкае ўяўленне пра асяроддзе, у якім рабіла першыя крокі і ўваходзіла ў свядомае жыццё Алена Васілевіч.

# Гісторыя чалавека будзе вывучацца па кнігах мастацкіх…

## «Не спяшайся ў вырай» Міхася Зізюка

Простая ж гісторыя, такія ўжо і ў літаратуру сучасную не ставяць: ён ажаніўся, абы ажаніцца, яна замуж пайшла, бо не было больш за каго. У яго — сын, у яе — сын і дачка. І вось сустрэліся, як застрэліліся. Тое самае каханне з першага позірку. Таемныя сустрэчы. Здрада. Ён прымае рашэнне і разводзіцца. Яе ловяць амаль на гарачым. Прызнаецца мужу. Але кінуць дзяцей без бацькі не змагла. І засталася, вымаліўшы прабачэнне мужа. Рай скончыўся буднямі.

Такая вось гісторыя.

А мяне не адпускала некалькі дзён.

Яна, гераіня, можа, і атрымала дараванне мужа. Хоць тут у мяне вялікія сумненні: мужчыны, па сваёй прыродзе заваёўнікаў-уласнікаў, рэдка даруюць здраду дарэшты. Але ўявім, што муж дараваў. Ды яна сама, з ім жывучы, сабе хіба даруе? І ў кароткім эпілогу тое свеціцца праз змены ў яе характары: знікла весялосць, стала настаўніца больш жорсткая з вучнямі. Дый, спазнаўшы асалоду сапраўднага кахання, як забыцца на яго? І здрада тут чаму і каму? Толькі мужу ці і свайму пачуццю?

Карацей, гісторыя, як кажуць, банальная. Ды ад таго боль не робіцца меншым, трагедыя не становіцца дробязнай. Калі задумацца, дык найбольш балюча нас б'е звычайнае — нешчаслівае каханне. Таму і кранула мяне гэтая сітуацыя — напраўду, спрабаваў уявіць будзённасць жыцця гераіні і яе мужа пасля ўсяго.

Звычайнае — так можна сказаць пра ўсю кнігу прозы Міхася Зізюка (дзве аповесці, апавяданні, зацемкі-рэфлексіі). Тут няма нейкага наватарства, эксперыментаў і незвычайных ракурсаў. Хіба што трохі гіпербалізацыі — як з закаханасцю жанчыны і ейнай салодкай здрадай на першай жа сустрэчы, як сама гісторыя кахання першай аповесці «Цёплае мора, гарачы пясок». Дый нават не перабольшванне тут, можна зірнуць на гэтыя дзве аповесці як на мару…

Але той спадзеў на шчасце ў далейшым жыцці хіба што і ёсць адно ў пачатку кнігі. А далей — туга. Іншым разам проста невыносная, глыбокая і бясконцая. Туга ад асэнсаванай марнасці быцця — так бы сказаў. Аўтар спрабуе адшукаць адказ на пытанне «Чаму так?» і быццам знаходзіць — ці не ва ўсіх ягоных гісторыях фігуруе яшчэ адзін маўклівы герой — гарэлка. І менавіта яна робіцца віноўніцай выпустошвання дашчэнту жыцця, пазбаўляючы яго шчасця, пакідаючы ў асобных выпадках хіба нейкую эфемерную бачнасць карціны-плаката з надпісам: «Але ж і добрае было…»

Не дзіўна, што асобнай тэмай ідзе дэградацыя вёскі як некалішняй калыскі народнай мудрасці і асаблівага беларускага менталітэту.

Гэта калі агулам. Як пішуць цяпер у прасунутых блогах, проза гэтай кнігі Міхася Зізюка — прыземленая. Аб самых простых рэчах, якія прасунутых чытачоў прасунутых блогаў наўрад ці і зацікавяць.

У апраўданне змрочнасці аўтара зазначу, што ёсць, адшукваецца кволы пробліск на здабыццё сэнсу нават у самой невыноснасці быцця — вера, спадзеў на быццам існуючую вышэйшую справядлівасць. І нават больш — спадзеў на тое, што будзе нешта нейкае пасля, бо тут мы, у большасці сваёй, сонца не бачылі. І сэнсу не ведалі, дык мо хоць там адкрыецца? Але ці не атрымаецца так, што зводзіўся той сэнс хіба вось — да спалення сухога бульбоўніку?




Зноў жа, калі запазычваць моўныя канструкцыі з аднаго тыднёвіка, дык Міхась Зізюк стварыў невялікую, але вельмі насычаную болем і роспаччу карцінку сучаснасці. Трошкі вусцішна робіцца, бо ведаеш жа — то не нейкі там замежны -ізм, а самы гнюсны наш родны рэалізм.

Некалі я выказаў думку, што сапраўдная гісторыя — гісторыя чалавека як такога — будзе вывучацца не па напісаных гістарычных опусах, не па падручніках, а па кнігах мастацкіх…

*В. Г.*

# «Крывавыя санеты»

## Павал Орсаг Гвездаслаў у перакладзе Міхася Скоблы

Антываенны цыкл славацкага паэта Павала Орсага Гвездаслава (1849—1921) напісаны ў 1914 годзе і прысвечаны жахам і бедствам, якія прынесла еўрапейскім народам Першая сусветная вайна. 32 санеты сталі ўзорам стаўлення да тэмы вайны ў славацкай паэзіі часоў Другой сусветнай вайны. Вайна для Гвездаслава не прыватны гістарычны выпадак, а сусветная катастрофа. Тэксты публікуюцца на славацкай мове з паралельным перакладам на беларускую. Выданне адрасаванае ўсім аматарам еўрапейскай і ў яе кантэксце — славацкай паэзіі. (З анатацыі.)

***

Толькі атрымаў у рукі, а ўжо стрэліла: «Хачу!». Дыхтоўнае, выкананае бездакорна друкарскае выданне — вось такая кніга.

Шчыльная папера высокай якасці, прыемнага колеру. Выдатны друк. А яшчэ — размяшчэнне на развароце арыгінала верша і ягонага перакладу. Для знаўцаў славацкай мовы — проста падарунак. Бо ж гэта так захапляльна — ведаць дзве мовы і чытаць верш у арыгінале і перакладзе. Тут, не ведаючы славацкай, угадваючы сэнс колькіх слоў, не-не ды кінеш позірк на старонку побач… Плюс да ўсяго — шыкоўныя, трывожныя гравюры Душана Калая. Усё разам робіць выданне яшчэ і падарункавым. Калі сама кніга — твор мастацтва.

Прызнаюся, ніколі не пісаў водгукі на вершы. Вось не ўмею. Адчуваць паэзію — гэта адно, выказаць адчуванні — ужо іншае. Таму няхай замест маіх слоў прычытаеце частку ўдумлівага і глыбокага артыкула знаўцы. Адзначу хіба адно: майстэрства Міхася Скоблы, перакладчыка, не толькі ў захаванні санетнага радка




etc, але вось што яшчэ… Так, беларускія словы, беларускія быццам сказы, усё знаёмае, усё кранае. І разам з тым разумееш: аўтар — не беларус. Вось умудрыўся перакладчык захаваць сапраўдны дух радка, і ён так адчуваецца…

*В. Г.*

***

Жывое дыханне Гвездаслававых твораў узнікае ў прасторы перасячэння і ўзаемнага суаднясення трох каштоўнасных сфер: індывідуальнай, нацыянальнай і агульначалавечай. Гвездаслаў фенаменальны, непаўторны. Цяжкі для чытання, складаны ў вобразнасці і шчодры ў сваім паэтычным выказванні. Таму яго нельга чытаць хутка. Да яго думак варта прыслухацца, яго яркую вобразнасць трэба асэнсаваць, яго насычанае сэнсам і духоўнай працай слова неабходна заўважыць. І ўзбагаціць сябе духоўна, эстэтычна, эмацыйна, інтэлектуальна, творча.

У строгай велічнай размеранай форме санета пятраркаўскага тыпу паэт увасабляе ўсю бездань і жах узаемнага знішчэння народаў. Вопыт, мудрасць, назіральнасць, жарсць, веды, хрысціянская вера, інтэлект і логіка разам рэагуюць на грамадскую катастрофу, рэфлексуючы над усімі праявамі чалавека ў паэце (гуманіст, адраджэнец, славак, славянін, грамадзянін, патрыёт, філосаф, вернік, адвакат, муж і шмат іншых). У санетах, прасякнутых гуманістычным пафасам, у суправаджэнні горкіх скептычных заўваг і гарачых абвінавачванняў узнікаюць думкі, факты, вобразы, з'яўляюцца эмацыйныя моўныя рэакцыі, малітоўныя воклічы.

Санетнае запавольванне і акцэнтаванне звычайна палётнага і шыракаплыннага гвездаслаўскага выказвання — не фармальны, а канцэптуальна-сэнсавы прыём. Ён арганізуе іншыя вобразна-выяўленчыя сродкі, каб давесці да чытача дыялектыку навукі і рэлігіі, каштоўнасць людскога жыцця і ўнутранага свету чалавека, высокую вартасць кожнага народа, сілу славянства і самастойнасць кожнага славянскага народа.

У перакладзе Міхася Скоблы санеты не толькі гучаць, але, здаецца, і дыхаюць па-беларуску, застаючыся пры гэтым гвездаслаўскімі. У іх увасоблена беларуская мілагучнасць і вобразнасць. Вершакладальнае майстэрства спалучаецца з увагай да славацкага тэксту і павагай да паэтычнага свету і канцэпцыі аўтара.

*Вікторыя ЛЯШУК*

# «Адна шкарпэтка і іншыя гісторыі» Вольгі Гапеевай

Журы Прэміі імя Цёткі абвясціла лаўрэатаў, і ў намінацыі «Найлепшая кніга для дзяцей і падлеткаў» перамог зборнік Вольгі Гапеевай «Адна шкарпэтка і іншыя гісторыі».

Вольга Гапеева піша для рознай аўдыторыі: доўгі час мы ведалі яе як «дарослую» паэтку, потым у яе творчым багажы з'явілася і дзіцячая літаратура, і дарослая проза. І ўсё атрымліваецца вельмі таленавіта.

«Адна шкарпэтка і іншыя гісторыі» — гэта кніга для малодшага школьнага ўзросту, у якую ўвайшлі шэсць невялікіх чароўных апавяданняў. У іх адбываюцца вельмі дзіўныя рэчы: ігуана носіць калготкі, а слімак Раджэш вырашае стаць ёгам і паўзе ў бібліятэку, каб адшукаць там кнігі на гэтую тэму. У аднайменным апавяданні «Адна шкарпэтка» мы чытаем шчымлівую гісторыю шкарпэткі без пары, якая сумуе, бо такіх, як яна, людзі звычайна выкідваюць. Ёсць закон: шкарпэткі мусяць мець пару. Але адна шкарпэтка з гэтым не згодна і сцвярджае, што пара часам і не патрэбная, бо бываюць людзі з адной нагой або ўвогуле без ног.

Добра, што ў нашай дзіцячай літаратуры пачынаюць узнімацца такія тэмы. З нядаўніх твораў можна прыгадаць кнігу Ганны Янкута — «Марта і яе мара пра снег», галоўная гераіня якой перасоўваецца ў інвалідным вазку. Такая ж гераіня ў кнізе Тамары Бунта — «Сад з матылькамі», іншай шортлістаркі Прэміі імя Цёткі.




Сюжэты апавяданняў з кнігі Вольгі Гапеевай вельмі непрадказальныя і дзіўныя, але дзіцячая фантазія таксама звычайна вельмі багатая, можа нарадзіць яшчэ і не такое. Таму мяркую, што зборнік «Адна шкарпэтка» дзецям спадабаецца. Праўда, мяне ў творы засмуціў наступны сказ: «Відавочна, што ў слімака і матылька быў розны бэкграўнд».

Мне здаецца, што кніга не разлічана на той узрост, калі дзеці могуць увесці ў свой лексікон слова бэкграўнд, нават калі ўжо вучаць інгліш…

P. S. Цікавае назіранне: на адным з разваротаў кнігі мы бачым бібліятэчныя паліцы, на якіх ілюстратарка Наста Іванова пакінула назвы твораў беларускай літаратуры. Тут мы можам убачыць і «Людзей на балоце», і «Жалейку», і «Споведзь», і «Тутэйшых». А на самай верхняй паліцы хаваецца бюст Цёткі і некалькі яе кніг. Ці не гэтая маленькая дробязь наваражыла Вользе перамогу ў Прэміі імя Цёткі?

*xbohx*

# Вайна з несвабодай: Карэл ЧАПЕК

Платон БЯСЕДЗІН

*«Госпадзі, вярні свету праўду! Гэта будзе больш, чым мірная дамова, гэта будзе каштоўней за любы саюз. Няхай ніводзін чалавек, ніводная нацыя, ніводная дзяржава не будуць упэўненыя, што чалавечыя адносіны калі-небудзь не будуць сапсаваны інструментамі хлусні. Не будзе ні ўпэўненасці, ні дамоваў, ні чаго-небудзь сапраўднага і надзейнага, калі свядомасць любога народа будзе скажоная заведамай хлуснёй. За кожнай хлуснёй хаваецца здрада і гвалт; кожная хлусня — гэта замах на бяспеку свету», — пісаў Карэл Чапек у верасні 1938 года. Адзін з самых значных чэшскіх пісьменнікаў міжваеннага перыяду, паспяховы журналіст, драматург і перакладчык з французскай, захоплены садоўнік, фатограф-аматар і падарожнік — усё гэта пра яго.*

*Карэл Чапек (1890—1938) быў не толькі цудоўным апавядальнікам, але і знаўцам чалавечай прыроды. Па словах яго сябра, журналіста Фердынанда Пераўткі, ён узняў «чэшскую літаратуру на ўзровень сусветнасці». Бяссмерце пісьменніку забяспечылі раманы і драмы, у якіх ён перасцерагаў ад злоўжывання палітычнай уладай або паліттэхналогіямі, якія актуальныя і сёння.*

У шэрагу вялікіх антыўтопій — ад «Мы» Яўгенія Замяціна да «Сферы» Дэйва Эгерса — часта забываюць выдатны раман «Вайна з саламандрамі» Карэла Чапека.


Карэл ЧАПЕК у маладосці

Час такі: мы ўсё часцей успамінаем антыўтопіі. Успамінаем і знаходзім мноства паралеляў з сённяшнім днём. Часам не паралеляў нават, а дзіўных па сваёй дакладнасці прагнозаў. Раман «Вайна з саламандрамі» быў апублікаваны ў 1936 годзе. І ён стаў настолькі суровым і надзённым, што Адольф Гітлер прачытаў яго асабіста і ўзненавідзеў аўтара. Але Карэл Чапек не паспеў адчуць наступствы гэтай нянавісці асабіста — ён памёр 25 снежня 1938 года, напярэдадні таго года, калі Чэхаславакія была анексаваная Нямеччынай. І гэта не адзіны антыфашысцкі тэкст пісьменніка: можна і трэба ўспомніць, да прыкладу, бліскучую п'есу «Белая хвароба».

Мінула 135 гадоў з дня нараджэння Карэла Чапека. Ён з'явіўся на свет у Мале-Сватанёвіцы (тады гэта была Аўстра-Венгрыя, цяпер — Чэхія). Пісаў па-чэшску. Літаратурай займацца пачаў у 14 гадоў. Быў прызнаны пры жыцці, шмат працаваў як драматург, у роднай Чэхіі меў культавы статус, з 1932 года да самай смерці намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.


Карэл ЧАПЕК. 1934 г.

Лічыцца, што менавіта Чапек прыдумаў слова «робат». Насамрэч прыдумаў яго брат-мастак, які пазней памёр ад тыфу ў нямецкім канцлагеры. Карэл жа выкарыстоўваў яго ў сваёй п'есе «R.U.R.», якая папярэднічала раману «Вайна з саламандрамі». Прычым пад робатам Чапек разумеў не машыну, а жывую істоту, створаную на фабрыцы (нешта накшталт андроіда).

Чапек захапляўся кубізмам, фатаграфіяй — увогуле, быў рознабаковым чалавекам. І, што важна, перакананым супернікам любой дыктатуры. Чапек, у адрозненне ад некаторых сваіх калег, з нацысцкім рэжымам ніколі не супрацоўнічаў, Гітлера ненавідзеў. І за гэта дорага заплаціў. Да поўнай акупацыі Чэхаславакіі Чапек не дажыў зусім крыху. Калі прэзідэнт Бенеш эміграваў з краіны, пісьменнік з'язджаць адмовіўся і застаўся ў поўнай ізаляцыі. Загінуў ад запалення лёгкіх, атрыманага падчас ліквідацыі паводкі.

Гэта агульныя звесткі, але за імі — лёс чалавека перакананага, ідэйнага, свабодалюбівага. Чалавека, якога і пасля смерці не пакідалі ў спакоі. Гестапа налящела ў дом Чапека пасля яго пахавання. На шчасце, удава схавала пісьменніцкі архіў. Так, рукапісы не гараць — калі трымаць іх у надзейным месцы.

Ці быў Чапек свабодным чалавекам? У Спінозы гучала думка, што па-сапраўднаму вольны чалавек не думае аб смерці. Чапек, так мне бачыцца, пра смерць думаў — і многа думаў; прычым не столькі аб сваёй, колькі аб смерці чалавецтва. Уласна, антыўтопіі шмат у чым і нараджаны прадвесцем вялікай катастрофы. Антыўтопія — гэта заўсёды ці амаль заўсёды адносіны чалавека і чалавецтва з лёсам, з Фатумам, а такім чынам — і са смерцю. І ў адносінах гэтых дзіўна тое, як чалавек, нібы загавораны, да гэтай смерці імкнецца, запалонены ці то яе веліччу, ці то ёй як збавеннем ад, перафразуючы іншага чэха, Кундэру, невыноснай цяжкасці быцця.

«Вайна з саламандрамі» шмат у чым менавіта пра гэта. Пры ўсёй стылістычнай эквілібрыстыцы гэтага тэксту. Завязка рамана такая. На адной з Зондскіх выспаў капітан ван Тох знаходзіць гіганцкіх саламандраў, разумных і гатовых да супрацоўніцтва. Гэтыя істоты вельмі працавітыя, а значыць, іх можна выкарыстоўваць як выгадную і эфектыўную працоўную сілу. Саламандры здабываюць жэмчуг і абменьваюць яго на нажы, гарпуны і іншую зброю. Пазней іх, кіруючыся смагай нажывы, рассяляюць на выспах Ціхага і Індыйскага акіянаў. І пачынаецца бунт! Бо саламандры, зразумела, самі хочуць кіраваць, узбагачацца і будаваць свой свет. Свет без людзей. Або, пры самых аптымістычных раскладах, людзі стануць жыць на малюсенькіх астраўках — у свайго роду рэзервацыях, стаўшы меншасцю.

Гэта адзін з варыянтаў будучыні, які да канца не прадвызначаны. У фінале рамана аўтар вядзе з сабой дыялог, выбіраючы прыдатны варыянт развіцця. Аўтар спрабуе зразумець, што ўвесь час падштурхоўвае людзей, чалавецтва да самаразбурэння? Што гэта за забойная цяга такая, знітаваная з верай ва ўласную ўнікальнасць? Чапек шукае адказ і ўпіраецца ў людскія сквапнасць, зайздрасць, ганарыстасць. Што рабілі людзі ў адносінах да саламандраў? Яны бессардэчна эксплуатавалі іх. Ужывалі пакаранні, збівалі, зневажалі — саламандры працягвалі працаваць, а потым паўсталі.

Мне ўспамінаюцца словы Наталлі Траўберг, перакладчыцы Клайва Люіса: «Люіса папракалі, што ў век Гітлера і Сталіна ён апісвае "ўсялякія дробязі". Але ён ведаў, што менавіта гэтым шляхам — праз уладнасць, зайздрасць, злосць, капрызлівасць, хвальбу — ідзе зло ў чалавеку». Чапек таксама пісаў у век Гітлера і Сталіна, але, у адрозненне ад Люіса, быў больш канкрэтны і бязлітасны ў сваёй сатыры. Немагчыма, да прыкладу, не ўбачыць у правадыру саламандраў алюзіі на Гітлера. А сам сюжэт, калі на выспах людзі знаходзяць істотаў і спрабуюць эксплуатаваць іх, а далей адбываецца паўстанне прыгнечаных, — чым не празрыстая алюзія на каланіяльную палітыку? Ну а тое, як выкарыстоўваюць і вырошчваюць саламандраў — гэта прамы стрэл у тое, як гітлераўскі нацызм узнік пры падтрымцы амерыканскіх і брытанскіх капіталаў. Дастасоўваецца гэта ўсё і да цяперашніх рэалій, калі тыя ж мігранты ўстанаўліваюць свае правілы.


Ілюстрацыя да рамана «Вайна з саламандрамі»

Гвалт спараджае гвалт. Прыгнёт становіцца такім жа прыгнётам. За ўсё давядзецца заплаціць; у мастацкіх творах — хутчэй, у жыцці — даўжэй. Аднак расцягнутасць у часе не змяніць прычынна-выніковыя сувязі, бо культура — гэта таксама свайго роду метад узнаўлення справядлівасці і пошук балансу. Чапек і паказвае, што мастацтва ўваходзіць у супрацьборства з мілітарысцкім гвалтам. Культура — не ад слова «культ», не ад пакланення і ахвярапрынашэння, а ад апрацоўкі і прарастання адзін у аднаго.

«Вайна з саламандрамі» — гэта, па сутнасці, канстатацыя таго, што апакаліпсіс стане справай рук самога чалавецтва. У многім ён будзе следствам імкнення зрабіць сваё жыццё максімальна камфортным. Усё дзеля камфорту, узбагачэння, лёгкасці, каб за цябе працавалі іншыя — няхай гэта будуць чалавечыя рабы з калоній ці робаты і нейрасеткі, кіраваныя штучным інтэлектам. Нехта ці нешта павінен забяспечыць тваё жыццё, але ж гэты нехта ці нешта абавязкова запатрабуе плату за свае паслугі. Ён сам захоча панаваць і кіраваць. Таму зло перацякае з адной формы ў іншую. На месца канцэрнаў, якія спансавалі рэжым Гітлера, прыйшлі транснацыянальныя карпарацыі, якія прыводзяць да ўлады палітыкаў. Матрыца мяняе форму, усталёўвае новыя версіі, але сутнасць яе нязменная: яна падмяняе нашыя жаданні сваімі, хоць мы і не здагадваемся аб тым.

«Сапраўдная дыктатура — гэта тая, у якой раб задаволены сваім рабствам і прагне яго», — гэта ўжо з Олдаса Хакслі, з яго шыкоўнай прадмовы да «Дзіўнага новага свету». Карэл Чапек, які нарадзіўся ў далёкім 1890 годзе, усё гэта — ну, ці амаль усё — выдатна ўсведамляў і выступаў супраць любога прыгнёту асобы, супраць любой несвабоды. Ён разумеў: адзіная свабода — гэта тая свабода, якую чалавек выхоўвае ўнутры сябе, але, на жаль, за яе, гэтую сапраўдную свабоду, давядзецца вельмі дорага заплаціць.

Сёння мы, як і людзі з рамана «Вайна з саламандрамі», закрытыя на астраўках, вырашаем, увогуле, тое ж пытанне. Мала — выйсці з Матрыцы; важней і складаней — прыняць яе.


Карэл ЧАПЕК

## Балонскі кірмаш дзіцячай літаратуры

Вызначаны ўладальнікі ўзнагароды BolognaRagazzi Awards 2025 года.

Прэмія Балонскага кірмашу дзіцячай літаратуры BolognaRagazzi Awards (BRAW) присуджаецца міжнародным журы з экспертаў выдавецкага свету, чыя задача — адзначыць якасць графічнага дызайну, інавацыю і прывабнасць кнігі для юнага чытача. Узнагарода ўручаецца ў пяці катэгорыях: «Фікшн», «Нон-фікшн», «Дэбют», «Коміксы» (у трох узроставых падкатэгорыях) і «Новыя гарызонты». Акрамя таго, кожны год прызначаецца асобная «разавая» катэгорыя. У 2025 годзе гэта «Sustainability» — «Устойлівасць». У кожнай катэгорыі, акрамя пераможцы, прадугледжваецца «спецыяльная згадка».




У катэгорыі «Фікшн» узнагароду атрымала кніга эміарцкага выдавецтва «Kalimat» «Дом мудрасці», у якой апісваецца гістарычная падзея — разбурэнне ў 1258 годзе войскамі ўнука Чынгісхана, мангольскага хана Хулагу, знакамітай на ўвесь мусульманскі свет Багдадскай бібліятэкі, якая існавала з пачатку IX стагоддзя. Аўтарка гэтай кнігі — дачка эміра Шарджы, прынцэса Бодур аль-Касімі, актыўная ўдзельніца міжнароднай выдавецкай справы, а ілюстратар — іранскі мастак Маджыд Закер Юнэсі. Лепшай у катэгорыі «Нон-фікшн» прызнана кніга італьянак Серэны Балісты і Соні Марыі Лучы Пасенціні «Тысяча блузак у дзень», якая расказвае аб бязлітаснай эксплуатацыі швачак у Нью-Йорку пачатку XX стагоддзя.

100 лепшых выданняў, пададзеных на конкурс, будуць выстаўлены падчас кірмашу на «Кніжнай паліцы BRAW». А пасля яе заканчэння — дададзены ў калекцыю Балонскага дзіцячага кніжнага кірмаша, які з 1966 года збіраецца ў балонскай дзіцячай бібліятэцы «Salaborsa».

## Фіналісты прэміі Drahoman-2024

Прэмія для перакладчыкаў кніг з украінскай на мовы свету абвясціла шорт-ліст намінантаў. Фіналістамі прэміі Drahomán Prize-2024 сталі: Ээра Балк з фінскім перакладам рамана Яўгеніі Кузняцовай «Лесвіца»; Амелія Глэйзер і Юлія Ільчук з перакладам на англійскую мову зборніка паэзіі Галіны Крук «Кароткі курс кактэйляў Молатава»; Дар'я Паўлешэн і Ана Дуганжыч з харвацкім перакладам рамана Юрыя Андруховіча «Радыё Ноч».




Разам са спісам фіналістаў названае імя лаўрэата Спецыяльнай прэміі. Прэмію «За высокае майстэрства і чалавечнасць у пабудове ўкраінска-літоўскага літаратурнага дыялогу» атрымае перакладчык з украінскай на літоўскую Вітас Дэкшніс.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў прэміі адбудзецца 23 красавіка ў Кіеве. Пераможца атрымае статуэтку, зробленую ўкраінскай мастачкай Ганнай Звягінцавай, грашовы прыз у памеры 3000 еўра, а таксама дадатковыя магчымасці для працы і прасоўвання сваёй творчасці.

Прэмія «Drahomán» была заснавана ў 2020 годзе Украінскім інстытутам, Украінскім ПЭН-цэнтрам і Украінскім інстытутам кнігі. Яна прызначана для падтрымкі і прызнання сумеснай працы перакладчыкаў і прысуджаецца за высокае перакладчыцкае майстэрства і ўклад у папулярызацыю ўкраінскай літаратуры за мяжой.

## Забароненыя ў ЗША кнігі

У акрузе Манро, штат Тэнэсі ЗША, са школьных бібліятэк выдалілі 574 найменні кніг. Сярод іх — «Змярканне», «Гульня тронаў», раманы Брэдберы і Оруэла, кнігі пра Халакост, рэлігію, ЛГБТ, а таксама класічныя антыўтопіі пра таталітарнае грамадства. Пра гэта паведаміла Амерыканская бібліятэчная асацыяцыя.

У 2022 годзе штат Тэнэсі ўпершыню прыняў Закон аб матэрыялах, адпаведных узросту, які абавязвае школы распрацаваць кніжную палітыку і стварыць кіруючы орган для праверкі кніг, даступных для вучняў. Закон распаўсюджваўся толькі на кнігі ў школьных бібліятэках. Нядаўна ў закон былі ўнесены папраўкі, каб уключыць кнігі, якія змяшчаюць апісанне «галізны, сэксуальнага зместу, сэксуальнага гвалту і празмернага гвалту». Кнігі з такім зместам мусяць прыбраць са школьных паліц.

«Ферма жывёл», «Уладар мух», «Дывергент», «Галодныя гульні», «Забіць перасмешніка», «Пра мышэй і людзей», «13 прычын» і іншыя кнігі выдаляюцца. Таксама забаронены «451 па Фарэнгейту» Рэя Брэдберы, які апісвае таталітарнае грамадства, дзе кнігі забароненыя і спальваюцца. Пад забарону трапіў таксама шэраг казак і фантастычных раманаў: «Пітэр Пэн», серыі кніг «Гульня тронаў», «Змярканне», «Дзённікі вампіра», манга «Барута», «Сталёвы алхімік». Пад забарону трапілі і кнігі пра гісторыю старажытнага Егіпта, Грэцыі і Рыма, а таксама пра нацызм.

## Невядомыя апавяданні Харпер Лі

Ніколі раней не публікаваныя апавяданні пісьменніцы Харпер Лі выйдуць у ЗША ў канцы 2025 года. Восем апавяданняў, напісаных да таго, як аўтарка пачала пісаць раман «Забіць перасмешніка», былі знойдзены ў нью-ёркскай кватэры Лі пасля яе смерці ў 2016 годзе. Яны будуць апублікаваны ў зборніку пад назвай «The Land of Sweet Forever» разам з васьмю раней апублікаванымі публіцыстычнымі творамі Лі. Па словах Айлы Ахмед, дырэктара брытанскага выдавецтва «Hutchinson Heinemann», апавяданні ўтрымліваюць «фірмовы досціп Лі, гэты ўсплёск цемры і тых кранальных персанажаў, за якія яе любяць», а дзеянне ў творах адбываецца ў Алабаме і на Манхэтэне.

Пры жыцці Лі былі апублікаваныя толькі дзве кнігі: «Забіць перасмешніка» і «Ідзі, пастаў вартаўніка», якая атрымала Пулітцэраўскую прэмію 1961 года. Больш за тое, канчатковая публікацыя кнігі ў 2015 годзе выклікала спрэчкі, бо некаторыя сумняваліся ў ступені ўдзелу Лі ў прыняцці гэтага рашэння. На той момант аўтарцы было 88 гадоў, яна ўжо была глухая і сляпая.

Лі нарадзілася ў 1926 годзе ў Манроўвіле, штат Алабама, і ёй было 34 гады, калі была апублікаваная кніга «Забіць перасмешніка», заснаваная на назіраннях за жыццём яе сям'і і суседзяў у Манроўвіле. З тых часоў яна была перакладзена больш чым на 40 моў, было прададзена больш за 46 мільёнаў асобнікаў па ўсім свеце. За сваё жыццё Лі атрымала мноства ўзнагарод, у тым ліку Прэзідэнцкі медаль Свабоды.

## Кніга пра маці АЙТМАТАВА

У Кыргызстане выйшла ў свет кніга «Прадказанне Айвазідзі» пра маці пісьменніка Чынгіза Айтматава. Выхад кнігі прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння Нагімы Айтматавай.

Пранізлівая і павучальная навінка папоўніла літаратурны фонд Кыргызстана. Прэзентацыя кнігі прайшла ў Бішкеку, дзе сабрала членаў сям'і Айтматавых, прадстаўнікоў творчых і інтэлектуальных колаў Кыргызстана і Расіі. Сродкі на выданне кнігі выдаткаваў прэзідэнт Ліцэйнага дома «Дубровін» з Екацярынбурга Іван Дубровін.

«Веру, што "Прадказанне Айвазідзі" стане помнікам на стагоддзі, гэтакім жа, як і тыя, што я адліваю, — адзначыў Дубровін, дадаўшы, што ён адным з першых прачытаў кнігу яшчэ ў электронным фармаце, і яна зрабіла на яго велізарнае ўражанне.

Лёс Нагімы Айтматавай склаўся няпроста. Яна нарадзілася да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў сям'і паважанага татарскага купца і пасля змены ўлады сутыкнулася з варожым стаўленнем бальшавікоў да людзей падобнага паходжання. «Знайсці сябе» ў новым жыцці Нагіме ўдалося дзякуючы веданню моў. Крыху пазней яна сустрэла сваё каханне — Тарэкула Айтматава — і нарадзіла яму чацвярых дзяцей. Але шчасце доўжылася нядоўга. Муж быў арыштаваны, а затым расстраляны падчас сталінскіх рэпрэсій, а на яго сям'ю легла таўро ворагаў народа. Аднак сіла духу, стойкасць і бясконцая матчына любоў дапамаглі Нагіме захаваць сям'ю і надзею.

Аўтары «Прадказання Айвазідзі» — Роза Айтматава, грамадская дзяячка, пісьменніца і сястра славутага празаіка Чынгіза Айтматава і яе калега, унук Тарэкула Айтматава Асан Ахматаў. Абодва на момант стварэння кнігі ўжо мелі досвед сумеснай літаратурнай працы. Айтматава і Ахматаў раней стварылі раман «Ата-Бейіт» («Могілкі бацькоў»).


Нагіма АЙТМАТАВА (злева) з сынамі Ільгізам (на руках у маці) і Чынгізам (пасярэдзіне). Фота з сямейнага архіва Розы АЙТМАТАВАЙ.

## Інтэрнэт-платформа для маладых літаратараў

У Расіі з'явіцца інтэрнэт-платформа для літаратараў і выдаўцоў. Праект LitLink заклікаюць дапамагчы пачаткоўцам апублікаваць свае творы.

Сацыёлагі з Паўднёва-Уральскага дзяржаўнага ўніверсітэта распрацоўваюць інтэрнэт-платформу LitLink, якая дапаможа аб'яднаць пісьменнікаў і выдаўцоў і спрасціць іх узаемадзеянне. Распрацоўнікі адзначаюць, што галоўная мэта праекта — дапамагчы аўтарам-пачаткоўцам знайсці выдавецтва, якое пагодзіцца выдаць іх твор.

«Многія з маладых пісьменнікаў часта сутыкаюцца з доўгім чаканнем адказу (65%), няведаннем асаблівасцяў рынку (15%), складанасцямі ў камунікацыі (14%). Таму мы і ствараем платформу, якая вырашала б усе гэтыя праблемы комплексна і была простая ў выкарыстанні», — распавяла аўтарка распрацоўкі — студэнтка кафедры сацыялогіі Мая Ліхвацкая.

Інтэрнэт-платформа LitLink будзе ўяўляць сабой сайт з асабістымі кабінетамі аўтараў і выдаўцоў. Рэгістрацыя будзе ажыццяўляцца праз «Дзяржпаслугі». Пасля рэгістрацыі і запаўнення профіля LitLink дапаможа аўтару зарыентавацца ў выдавецкім асяроддзі і правільна аформіць рукапіс.

Кожны літаратар зможа размясціць на платформе свае творы, а выдаўцы змогуць паказаць узоры апублікаваных кніг і расказаць аб рабоце з аўтарамі і тэрмінах выхаду кніг у друк.

## Кніга яшчэ не страчана?

Справаздача «Кніга яшчэ не страчана?», падрыхтаваная на замову Польскага інстытута кнігі, стала першым у сваім родзе даследаваннем, якое ўлічвае эканамічную перспектыву ўсіх суб'ектаў літаратурнай сферы. «Кніжны рынак у Польшчы, як частка культурнага сектара, адыгрывае фундаментальную ролю ў пабудове нацыянальнай ідэнтычнасці і фармаванні культурнага капіталу грамадства. У адрозненне ад іншых сектараў культуры і эканомікі, кніжны рынак практычна цалкам нерэгуляваны. Справаздача збірае інфармацыю аб сітуацыі ўсіх зацікаўленых бакоў і з'яўляецца адпраўной кропкай для далейшага абмеркавання неабходных сёння сістэмных рашэнняў», — адзначыў Гжэгаж Янковіч, дырэктар Інстытута кнігі.

Мэтай дакладу было апісаць кніжны рынак са структурнай перспектывы і ўказаць механізмы, якія маглі б падтрымаць яго ўстойлівае развіццё. Справаздача заснавана на паглыбленым якасным і колькасным аналізе, праведзеным шляхам экспертных апытанняў і дарадчых семінараў. Мэтай даследавання з'яўлялася праверка адносін паміж суб'ектамі, якія працуюць на кніжным рынку, якія з іх займаюць дамінуючае, а якія — падпарадкаванае становішча.

Польскі кніжны рынак знаходзіцца ў структурным крызісе — сцвярджаюць аўтары справаздачы. Чатыры буйныя дыстрыбутарскія кампаніі кантралююць восемдзесят працэнтаў аптовага рынку. Гэта прыводзіць да сістэматычнага выцяснення больш дробных суб'ектаў, якія губляюць здольнасць канкураваць з-за такіх практык, як пратэрміноўка плацяжоў, спагнанне дадатковых збораў і адсутнасць свабоднага доступу да дадзеных аб продажах іх уласных прадуктаў. Гэта толькі некаторыя са зробленых высноў. Негатыўныя наступствы цяперашняй сітуацыі закранаюць усіх удзельнікаў кніжнага рынку: ад аўтараў і перакладчыкаў, выдавецтваў, распаўсюднікаў, кнігарняў да бібліятэк і шырокай групы чытачоў.

Згаданая справаздача не толькі апісвае асноўныя праблемы ў польскім кніжным сектары, але таксама прадстаўляе і прапановы па канкрэтных рашэннях, такіх, як распрацоўка закона аб абароне кніжнага рынку, рэформа нацыянальнай праграмы развіцця чытання, стварэнне кодэкса добрай практыкі для кніжнага рынку і распрацоўка новых правілаў для бібліятэк.